# Ніва

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 29 (1273) ГОД XXV БЕЛАСТОК 20 ЛІПЕНЯ 1980 г. ЦАНА 2 ЗЛ.




*Бельскія „Васілёчкі“ з... васілёчкамі палявымі.*

# ФЭСТ
## У ПЛЮЦІЧАХ

Ён адбыўся ў апошнюю нядзелю чэрвеня. На пласторнай зялёнай пляцоўцы ў пачатку вёскі моладзь зрабіла эстраду, каб з яе маглі людзей пацешыць сваімі песнямі **„Васілёчкі“** з Бельска і **„Каласкі“** з Беластока, якія прыехалі на гэтае народнае святкаванне.

Плюцічы астаюцца крыху збоку ад праяздных дарог. Яны расселіся побач дзвюх рэк: **Нарвы і Арлянкі.**

— І ад гэтага ўся наша бяда, — паясняе мне адзін з гаспадароў, да якога прысеў я на лавачку, каб распытаць пра іх вясковыя справы. — Асабліва ў гэты халодны і дажджлівы год. Зямля ў нас слабаватая, уся надзея ў сенажаці, — гаворыць ён, — бо гэта аснова для нашай жывёлагадоўлі. Аднак у гэтым годзе пасля праліўных дажджоў Нарва выступіла з берагоў, Арлянка ёй яшчэ падбавіла, і ўся наша сенажаць апынулася пад вадою. Хто паспеў скасіць, у таго трава паплыла ў рэчку, а хто не паспяшаўся, таксама карысці мала мае, бо толькі вяршынкі тырчалі над вадою. Выклікалі мы з Бельска прадстаўніка ПЗУ, каб ацаніў шкоду, а ён паглядзеў здалёк і заявіў, што няма тут для яго работы, што прыедзе тады, калі сена згніе...

**Ян Леўчук,** солтыс вёскі, не так ужо песімістычна глядзіць на свае гаспадарскія справы, але і ён таксама наракае на непагадзь у гэтым годзе. Ад яго я даведаўся, што ў Плюцічах паводле солтысавага рэестру лічыцца амаль 200 гаспадарак, але толькі 60 гаспадароў. Усе іншыя гэта ўжо рэнтысты-пенсіянеры. Дзяцей адправілі ў горад, зямлю здалі дзяржаве і самі селі на пенсію. Каб нуда не занадта дакучала, разводзяць курэй, гусей ды качак, вырошчваюць агуркі і памідоры, найчасцей пад фальгой, бо фальговыя тунелі можна тут пабачыць амаль на кожным панадворку. І чакаюць сваіх сыноў ды дочак.

— Слаўныя людзі выйшлі з нашай вёскі, — заяўляе солтыс Леўчук і для прыкладу называе будаўніка самалётаў інжынера Мікалая Гулько, афіцэра (ужо на пенсіі) Мікалая Астроўскага, афіцэра Сцяпана Стэпанюка...

— І мая дачка, — з гордасцю дабаўляе дзядзька Іван, — таксама закончыла універсітэт у Варшаве і зараз вучыць моладзь у Дайлідах.

Ад сябе яшчэ дабаўлю, што з вёскі Плюцічы паходзіць вядомы біёлаг, прафесар Медыцынскай акадэміі ў Беластоку **Васіль Чэчуга.**

Беласток для маладых людзей з Плюціч — першае прыстанішча ў шырокі свет. Даезд у горад добры. Можна аўтобусам, але выгадней і болей надзейна цягнікам, ад станцыі ў Страблі, за няцэлых дзесяць злотых. Гэтай магчымасцю выгоднага даезду ў горад карыстаюцца многія старэйшыя і малодшыя жыхары Плюціч. Ездзяць у школы і на працу.

— А тыя, што асталіся на гаспадарках, чым перш за ўсё займаюцца? — пытаю солтыса.

— Пераважна гадоўляй кароў і букатаў, — паясняе ён і дабаўляе, што збожжа і другія расліны ў іх не здаюць экзамена, не аплочваюцца, а сенажаці вельмі многа.

— Маем у вёсцы, — гаворыць солтыс, — ужо дваіх сваіх спецыялістаў па жывёлагадоўлі. Гэта **Ян Парфенюк** і **Сцяпан Дзмітрук.** Разводзяць яны малочных кароў і букатаў. Былі б можа яшчэ і іншыя, — неяк заклапочана прадаўжае свае думкі солтыс Ян Леўчук, — але ў гэтым годзе нашы сенажаці...

Гавару яму, што ўжо ведаю, і адпраўляюся на рэпарцёрскі агляд вёскі. **Максім Паплаўскі,** які тут пражыў ужо 74 гады, кажа мне, што з канца ў канец Плюціч будзе дакладна 1 кіламетр і 400 метраў. Са сваёй жонкай, **Аннай,** прысеў ён на лавачцы і любуецца летнім сонечным святочным днём. Гаспадарку перапісаў ужо на дачку.

— Добрага зяця мы маем, — сцвярджае цётка Анна. — Роднага сына нам замяняе, які, на жаль, памёр у нас, не дачакаўшыся нават 25 год. Адслужыў войска, вярнуўся дамоў і захварэў... параліч...

Здарылася гэта ўжо 20 з лішнім гадоў таму назад, але ў матчыным сэрцы рана яшчэ не зажыла і яна крадком абцірае няпрошаную слязу.

Працяг на стар. 4



*Вёска Плюцічы ў летні дзень патанае ў зелені старых дрэў. Гэта вёска вялікая і гаспадарная.*

У ЛІПЕНЁВАЕ СВЯТА

# СЛОВА
## ПРА МУЖНАСЦЬ

У самы цяжкі перыяд нашай гісторыі — пры нямецкай акупацыі, калі за малейшае падазрэнне пагражалі здзекі і расстрэл, толькі моцныя духам людзі адважваліся супрацьпастаўляцца лютаму ворагу і брацца за зброю.

Нянавісць да ворага, людская крыўда, растоптаная чалавечая годнасць не дазваляюць Мікалаю Парфенюку сядзець спакойна. Ён шукае падобных сабе, ён дадае адвагі спасаваўшым, ён уключаецца ў рух Супраціўлення. У снежні 1941 года ў Бельску на чале з быўшым савецкім афіцэрам Забалотным арганізоўваецца антыфашысцкі камітэт, ахвярным дзеячом якога становіцца Мікалай Парфенюк.

Члены антыфашысцкага камітэта знаходзяць людзей для падпольнай дзейнасці. З гэтай мэтай выязджаюць на вёскі, наладжваюць сувязь з адданымі гэтай справе патрыётамі, дапамагаюць хаваць савецкіх салдат і грамадзян, рыхтуюць зброю. Вынікам гэтай дзейнасці было ўтварэнне партызанскага атрада імя Тэльмана, які знаходзіўся ў Лядскай пушчы. Утрымлівалася таксама цесная сувязь і з партызанскім атрадам імя Дзяржынскага.



17 жніўня напаткала няшчасце. Немцы арыштавалі на Бельшчыне многа людзей, у тым ліку і Мікалая Парфенюка і яго жонку Марыю, Забалотнага з жонкай, Васіля Шаралу з Відава і іншых з антыфашысцкай групы. Завезлі іх у Белавежу ў памяшканне былой пошты. Там страшна каталі людзей.

— Людзі з болю крычалі нечалавечымі галасамі, — гаворыць Марыя Парфенюк. — Ва ўсіх намагаліся немцы выдабыць весткі аб партызанах, аб супрацоўніцтве з імі.

— А калі Забалотнага, пабітага, не падобнага на чалавека, з паламанымі касцямі і паадбіванымі мышцамі, немцы павесілі, а мяне з Васілём Шаралам перакінулі ў яго камеру, — успамінае Мікалай Парфенюк, — тады здавалася, што ўжо прыдзецца развітацца з белым светам. — Помню, вывелі нас з гэтай катоўні да вісельніцы, якая была ля царквы, і на нашых вачах павесілі трох чалавек. „Калі нічога нам не скажаце, — прыгразілі немцы, — вас таксама павесім“. Аднак мы нічога не сказалі. Мы знеслі ўсё, не прызналіся. А канкрэтных доказаў не было. Праз два месяцы, нічога не даведаўшыся, немцы выпусцілі нас.

— Вярнуўшыся дамоў, мы далей дзейнічалі, збіралі зброю, медыкаменты, бялізну, як маглі, так спрыялі партызанам, — працягвае расказваць Мікалай Парфенюк. — Былі яны частымі госцьмі ў маім доме.

(Працяг на стар. 4)

# ГАЛЬЯШ ЛЕЎЧЫК

**(ДА 100-ГОДДЗЯ З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ)**

Гальяш Леўчык (Ляўковіч), беларускі паэт-нашанівец нарадзіўся ў Слоніме 20 ліпеня 1880 года ў сям'і селяніна вёскі Шайпякі, Слонімскага павету (зараз Ружанскага раёна, Брэсцкай вобласці), які прыехаў у горад шукаць працу.

Аб сабе Гальяш Леўчык расказваў так: „Хадзіў у прыходскую школу, а потым у так званую павятовую, якую і скончыў. З 1896 года служыць у канцылярыі міравога суддзі і з'езду міравых пасрэднікаў. Потым працуе ў нейкага каморніка. У 1904 годзе пераязджае ў Варшаву і працуе як рысавальнік у гарадскім магістраце. Тут жа ходзіць на лекцыі ў школу мастацтва. Прымаў удзел у грамадскім жыцці беларусаў". На некалькі месяцаў у год жыў у родным Слоніме.

Падчас гітлераўскай акупацыі згарэў дом у Варшаве, у якім была кватэра Гальяша Леўчыка і дзе загінула яго багатая бібліятэка, карпатліва збіраная ім на працягу ўсяго жыцця. Памёр Гальяш Леўчык у 1944 годзе.

Гальяш Леўчык пачаў друкавацца ў „Нашай ніве". У 1912 годзе ён выдаў зборнік вершаў „Чыжык беларускі". Падрыхтаваў другі зборнік сваіх вершаў „Беларускі жаўранак" (вершы 1920—1927 г.г.), супрацоўнічаў у заходнебеларускіх газетах і часопісах. Гальяш Леўчык прыслаў у беларускі дзіцячы часопіс „Заранка", рэдактарам якога была Людвіка Войцік (Зоська Верас) і ў якім супрацоўнічаў аўтар гэтых радкоў (Малады Дзядок) — запісы народных загадак, некаторыя ў вершаванай апрацоўцы, бо вельмі любіў беларускі фалькор.

Асабіста я пазнаёміўся з Гальяшом Леўчыкам у 1934 годзе ў Слоніме. Ён сам прыйшоў да мяне на вуліцу Агародную (зараз імя Францішка Багушэвіча), дом № 8. Часта наведваў і я яго ў маленькім доміку над Шчарай (вуліца 3 Мая № 73, зараз — Чырвонаармейская), які ён пабудаваў замест старой хаты, якая развалілася.

Пакойчык Гальяша Леўчыка нагадваў маленькі зал нейкага музея. Усе сцены былі пазавешваны малюнкамі



*Г. Леўчык, 1912—1913 г. З архіва Л. Войцікавай.*

ў пазалочаных рамачках яго работы, фатаграфіямі, сярод якіх быў вялізны алейны партрэт самога Гальяша работы варшаўскага мастака. Шмат было тут розных беларускіх кніжак, рукапісаў, здымкаў. Паэт цікавіўся гісторыяй роднага беларускага краю, збіраў народную творчасць, любіў музыку і сам добра іграў на скрыпцы і акарыне.

14 лістапада 1939 года мне пашанцавала суправаджаць у Слоніме народнага паэта Беларусі Янку Купалу да Гальяша Леўчыка, з якім яго звязвала даўнейшае сяброўства з часоў „Нашай нівы". (Янка Купала ехаў з Народнага Сходу ў Беластоку і спецыяльна заехаў у Слонім, каб пабачыцца з Гальяшом Леўчыкам).

У маленькім доміку на Чырвонаармейскай вуліцы № 71 сустрэліся два сябры і ўспаміналі аб мінулай супольнай працы ў Вільні. (Домік Гальяша Леўчыка не захаваўся — яго знеслі ў 1961 годзе, бо тэрыторыя была патрэбна для пашырэння шынарамонтнага завода).

У Слонімскім гістарычна-краязнаўчым музеі захоўваўся архіў (слонімскі) Гальяша Леўчыка — яго рукапісы, лісты да яго Янкі Купалы, кнігі, газеты, часопісы, сярод якіх віленскі гумарыстычны часопіс „Маланка" з падкрэсленымі заўвагамі рукою Гальяша Леўчыка, выразкі з газет, яго фатаграфіі, малюнкі, асабістыя рэчы, лісты. Усё беражна захоўвалася да Вялікай Айчыннай вайны.

На жаль, падчас вайны злачынца ўкраў усё гэта і толькі вялізны алейны партрэт паэта захоўваецца ў архіве музея. Напэўна, злодзею няёмка было вынесці яго з памяшкання музея...

У вершы „Мая прадмова" да зборніка „Чыжык беларускі" Гальяш Леўчык пісаў:

Нічога не хачу... нічога, нічога —
Ні грошы, ні славы, ні шчасця
сляпога...
А толькі ўсё жду, каб родная мова
Хутчэй дачакала свабоднага слова!
Пакуль не дождуся багацця такога —
Нічога не хочу... нічога, нічога!

Вялікая Айчынная вайна перакрэсліла планы паэта Гальяша Леўчыка. Шкада, што не давялося паэту аглядаць росквіт роднай Беларусі і пераканацца, што „родная мова дачакалася свабоднага слова", здзейснілася ягоная запаветная мроя.

Загінуў паэт, але ўдзячная памяць аб ім жыве ў беларускім народзе.

**Сяргей Новік-Пяюн**

## ВЕРШЫ ГАЛЬЯША ЛЕЎЧЫКА СА ЗБОРНІКА „ЧЫЖЫК БЕЛАРУСКІ"

### ЧЫЖЫК

„Чыжык, чыжык, дзе ты быў?"
Я на Белай Русі жыў:
Бачыў слёзы, жалю крык,
Як гаруе там мужык..."

„Чыжык, чыжык, дзе ты быў,
Што ты чуў там, што рабіў?"
„Сярод вёсак я лятаў,
Песні сумныя збіраў..."

„Чыжык, чыжык, дзе ты быў?
Што ты бачыў, што ты сніў?"
„Ох, шмат гора ёсць там, шмат,
Выглядае беднасць з хат..."

„Чыжык, чыжык, дзе ты быў?"
„Па магілках я блудзіў,
Па курганах, ля дарог
З жалю вытрымаць не мог!.."

### НІХТО МАІХ НЕ ЗНАЕ СЛЁЗ...

Ніхто маіх не знае слёз,
Што ў сэрцы схованы глыбока,
Проч роднай хаты там — далёка,
Дзе я радзіўся, бегаў, рос;
Дзе шоў касцоў праз горы, долы
Зык-звон вясёлы.
Ніхто маіх не знае слёз,
Ніхто маёй не знае долі,
Апроч крыніцы тэй — у полі,
І вербаў сумных, і бяроз,
Старэнькай грушы у садочку,
Старых кляночкаў.
Ніхто маіх не бачыў слёз,
Ніхто не знаў мяне ў нядолі...
Апроч тэй пасекі пры полі,
Апроч ракі, плытоў і лоз,
І тэй дарожкі, што пры рэчцы
Шнуркам пляцецца.
Ніхто не знае... проч магіл,
Што траўкай-мохам зарастаюць,
Што столькі сумных дум хаваюць,
Нязбытых дум, прапаўшых сіл...
Дзе жджэ мяне дзярна ўзгор чысты.
На сон вячысты...

*

Хто адрокся сваіх,
Хто стыдацца нас стаў
І прыліп да чужых,
Каб ён свету не знаў!
Мову родную хто
Пазабыў, асмяяў,
Загубіў за нішто,
Каб ён свету не знаў!
Сваю родну зямлю
Хто чужынцу прадаў —
Скрыўдзіў вёску сваю,
Каб ён свету не знаў!
Хто з народам не жыў
І карысці не даў,
Хто сваіх не любіў —
Каб ён свету не знаў!





# НАШАНІЎСКАЯ ПАРА

**ЯНКА КУПАЛА — ЧАСТКА VII**

Разглядаючы крыніцы літаратурнага ўплыву на маладога Купалу, мы павінны падкрэсліць, што ўплыў гэты не абмяжоўваецца класікамі і пісьменнікамі XIX ст. Купала цікавіўся таксама сучаснай літаратурай, цікавасць гэтая кіравалася ў бок многіх рускіх, польскіх і заходнееўрапейскіх пісьменнікаў.

У „Аўтабіяграфічных матэрыялах" Купала называе такіх аўтараў, як Горкі, Салагуб, Пшыбышэўскі, Гауптман, Гамсун. Варта падкрэсліць і тое, што Купала цікавіўся ў аднолькавай ступені паэзіяй, прозай, драматургіяй.

Сваю сімпатыю да многіх модных сучасных пісьменнікаў Купала называе „данью современности". Жонка Купалы У. Луцэвіч гаворыць, што паглядзеўшы ў тэатры п'есу Пшыбышэўскага „Снег", назаўтра Купала прыслаў ёй нованапісаны верш „Снег". Гаворачы аб уплыве сімвалістаў тыпу Пшыбышэўскага ці Салагуба, трэба сказаць, што ў многіх творах Купалы знаходзім сляды ўздзеяння з боку гэтых пісьменнікаў.

Станаўленне Купалы як чалавека і паэта не магло адбывацца без уплыву з боку тагачасных беларускіх пісьменнікаў і дзеячоў.

Купала з асаблівым цяплом успамінае Ядвігіна Ш.

„С ним-то, — піша Купала, — мы долгие часы беседовали о белорусской литературе, в частности о белорусском вопросе вообще. В особенности после одной, другой рюмки вина беседа у нас рекою лилась."

Апрача Ядвігіна Ш. сярод асоб, якія аказалі ўплыў на Купалу, трэба назваць аўтара першай „Гісторыі Беларусі" Вацлава Ластоўскага і дзеячоў Грамады братоў Луцкевічаў. Апошнія знайшлі месца ў „Аўтабіяграфічных матэрыялах". Купала піша: „Ближе с ними я тогда не сошелся, ибо по природе своей был я больше индивидуалистом и не мог бы вынести партийного или другого подчинения. Но впоследствии это моё знакомство, особенно с братами Луцкевичами сказалось, когда я бросил службу в винокурных заводах, будучи в которых я много писал и печатался в „Нашей ниве". Луцкевичи приглашали меня на работу в редакции „Наша нива" и в библиотеку „Знание" Даниловича."

Сярод беларускіх дзеячоў Купала выразна выдзяляе В. І. Самойлу, гаворачы, што ён аказаў значны ўплыў на станаўленне яго як паэта. „Кстати, должен отметить, что я познакомился с белорусскими революционными деятелями Луцкевичами и другими, когда жил еще в Боровцах. Я уже тогда писал и свои стихи показывал В. У. Самойло в течение двух лет и переписывался с ним. Он всегда хвалил и поощрял меня к писанию. При его содействии было напечатано мое первое стихотворение „Мужик" в минской газете „Северо-западный край".

Са сказанага відаць, што Купала, як, зрэшты, кожны пачынаючы пісьменнік, прайшоў складаны шлях самаадукацыі, школьнай адукацыі, кантактаў з людзьмі, захапленняў літаратурнымі ўзорамі і пісьменнікамі. У гэтым працэсе складаўся ён як чалавек і крышталізаваўся як пісьменнік.





# УРЭШЦЕ ПАПАЛІ

Цётка майго сябра дрыжыць на думку аб магчымасці сканання. — Збоку гледзячы, можна падумаць, — гаворыць сябар, — што цётка ў рай не верыць.

Я, у сваю чаргу, яму, гэлю, не веру, бо ён хлус. Я таксама маю цётку і нічога такога не заўважаю. Ілжэ, паганец, але я слухаю, бо што, маю каву пакінуць, якой мяне пачаставаў? А ён выкарыстоўвае маю прагнасць і гаворыць амаль не спыняючыся. Яго цётка абыйшла ўсіх дактароў, якіх толькі ведалі яе сваякі, усіх знахароў і шаптух, якія толькі існуюць у нас. Усе ёй гавораць, бы ў адну трубку трубяць, што яна здаровая і ніякіх лякарстваў не патрабуе. А яна ім не верыць, бо адзін з дактароў сказаў, што будзе яшчэ здаравейшай, калі перастане тры разы ў дзень чарнічны суп на касцях есці. Яна, бы місіянер, ходзіць па ўсіх, хто толькі мае нешта супольнае з лячэннем, і пераконвае, што каб іх слухала, то даўно грызла б святую зямлю, а так яшчэ ходзіць і дзяцей глядзіць. — Няхай яны смяюцца з супу чарнічнага на касцях, — гаворыць быццам яго цётка, — а я яшчэ і перцу дадам.

Ой, ілжэ сябрук, ілжэ, але што ты зробіш з чалавекам, які ілгуном нарадзіўся. Я ж таксама маю цётку, але яна ціхая, спакойная, нікога чужога не чапае і з нявесткамі не сварыцца, глядзіць іхніх дзяцей, ходзіць у царкву, памагае бедным, не ходзіць па дактарах, а тым больш па шаптухах. А ўжо пра алкаголь то і не падумае. На думку аб ім у маёй цёткі нос сінее. Дзе там, барані Божа... Здараецца, што ў хаце выпіваюць у нейкае вялікае свята, то мая цётка выходзіць, каб не пачуць паху гарэлкі, бо ёй зараз галава баліць. А цётка сябра (я яму не веру) быццам галаўны боль лечыць алкаголем. Вось такі прыклад прыводзіць ілгун. Калісьці да цётчынага сына прыехаў госць. Сын пасадзіў яго ў пакоі за сталом, каб даць паабедаць. У тым часе цётцы балела галава і яна мела выпіць парашок. Але ўбачыла, што сядалі за стол, парашок адлажыла. Нявестка яе пытае, чаму палажыла на акне парашок, трэба ж выпіць, калі галава баліць. А цётка кажа: „Пакуль не буду піць парашка, бо зараз пачнуць піць гарэлку і да мяне прывяжуцца, каб чарку з імі выпіла".

— Не будуць піць, бо госць гарэлкі не п'е, — адказала нявестка.

— То госць няхай не п'е, але ж паставіць трэба, бо як жа ж абедаць без гарэлкі, — засумавала гасцінная жанчына.

Сын паставіў на стол бутэльку, а цётка хутчэй са сваёй шкляначкай і перцам да стала. П'е і гаворыць: „О, тото добра, я сабе напарстачак вып'ю, то і з'ем як трэба, а вы, мужчыны маладыя, вып'еце рэшту". Так і было: мужчыны выпілі рэшту, бо яны пілі „напарсткамі", а цётка „соткаю".

— Ну вось, зноў пацяплела, — прадаўжае ілгун, — і цётка пачала аднова шукаць лекара, які прадоўжыў бы ёй жыццё. Заехала да найслаўнейшага. Той паглядзеў, змерыў ціск, абслухаў, абстукаў і бачыць, што жанчыне нічога страшнага не дакучае, прыпісаў парашкі і адправіў дамоў.

Цётка ілгуна (бо я яму не веру) парашкоў не ўзяла, значыць, не выпіла ніводнага і на другі дзень паперла ў амбулаторыю з прэтэнзіямі: „гаўно тыя вашыя парашкі памагаюць".

— То чаго вы хочаце, хворая? — пытае збянтэжаны лекар.

— Я хачу вось такія, — паказала пяддзю, — уколы!

— Вам, хворая, ніякіх уколаў не трэба, вы крыху толькі недамагаеце, быццам ад нікатыну. Вы курыце?

— О, яшчэ што выдумаў, вялікі доктар, мне, старой, курыць?..

— А мо вы крыху выпілі?

Старая маўчыць.

— Ну, выпілі крыху, ці не?

— Колькі я там выпіла...

— Ну, вось ідзіце дамоў, вазьміце парашкі і ляжце. Адпачнеце, усё будзе добра.

— Нічога не будзе добра, пакуль я не дастану вось такіх уколаў.

Цётка села ў крэсла. Лекар з сястрою пераглянуліся.

Сястра, хітрая баба, кажа:

— Пане доктар, вы яшчэ раз пагля-

(Працяг на стар. 5)

## ГМІННЫЯ НАВІНЫ

### НАЙЛЕПШЫЯ КАМІТЭТЫ ДАСТАЎЦАЎ

Малачарскае прадпрыемства ў Гайцаўцы перапрацоувае малако з дзевяці навакольных гмінаў. Сяляне возяць яго на 180 зліўных пунктаў (найбольш іх у Нараўскай, Гайнаўскай, Чыжоўскай, Мілейчыцкай і Нараўкаўскай гмінах). На прыёмных пунктах дзейнічаюць камітэты дастаўцаў. Лепшыя з іх удзельнічаюць у конкурсе на найактыўнейшы камітэт дастаўцаў у ваяводстве. З Гайнаўскай акругі прыступае да конкурсу 30—50 камітэтаў дастаўцаў. Усе яны праявілі сябе ў доглядзе за добрай якасцю дастаўленага сырадою, у добрай арганізацыі транспарту, добрым абслугоўванні дастаўцаў, у грамадскіх пачынах пры добраўпарадкаванні злеўняў, адснежванні даяздных дарог да пунктаў скупкі малака і ў іншых важных справах. Вялікая заслуга ў гэтым старшынь камітэтаў дастаўцаў. Многія з іх выконваюць гэтыя грамадскія функцыі па 10—18 гадоў.

Найлепшымі камітэтамі дастаўцаў у раёне абслугоўвання гайнаўскай малачарні з'яўляюцца камітэты ў Курашаве (старшынствуе яму Рыгор Рамановіч), Тыневічах Вялікіх (старшыня Мікалай Петрышук) і Дубінах (старшынёю ў ім з'яўляецца Іван Кандрацюк). Заслужыліся таксама ў гэтай справе яшчэ і іншыя старшыні: Васіль Арабчук з Хітрай, Міхал Барташэвіч з Ляшукоў і Пётр Юшкевіч са Збуча. Усе яны атрымалі грашовыя ўзнагароды.

Варта адзначыць, што камітэт дастаўцаў у Курашаве заваяваў першае месца ў ваяводстве і атрымаў высокую ўзнагароду.

### НАЙЛЕПШЫЯ ГАДОЎЦЫ

У Ляшукоўскай акрузе ў гміне Нараўка да найлепшых гадоўцаў малочных кароў належаць наступныя вопытныя гаспадары: Мікалай Харкевіч, Уладзімір Рэент і Фёдар Рэент — усе яны з Ляшукоў, Міхал Пташынскі з Міхнаўкі і Пётр Сянкевіч з Грамотнага. Найбольш малака прадаюць дзяржаве Мікалай Харкевіч — у сярэднім 98—100 літраў кожны дзень, затым Уладзімір Рэент — 85 літраў, Міхал Пташынскі — 80 літраў і Пётр Сянкевіч — 75 літраў. Усе яны возяць малако на пункт скупкі ў Ляшуках, які мае цяпер 106 пастаянных дастаўцаў з Ляшукоў, Міхнаўкі, Церамкоў, Грамотнага, Парослага і калоніі Бакавое. Штодзень на гайнаўскі маслазавод вязуць адсюль 2600—2700 літраў малака.

### АХ, ДАРОЖКІ...

Зараз многа добрых дарог у Нараўкаўскай і Міхалоўскай гмінах. Па іх прыемна і бяспечна едзеш. Цяпер Гайнаўку з Нараўкай спалучае асфальтаваная дарога. Гэта дарога праз Белавежскую пушчу. Ехаць па ёй любата і яна прабягае праз цікавейшыя кварталы пушчы. Ездзіць па ёй усё больш нашых краёвых і замежных турыстаў. Асабліва цяпер, калі ў Нараўцы адкрылі розныя курортныя аб'екты, рэстаран з кавярняй і начлежнымі месцамі.

Цяпер распачалі класці асфальтаванае палатно на 4-кіламетровым адрэзку дарогі з Нараўкі да чыгуначнага вакзала ў Плянце, які назвалі некалі таксама Нараўкай, і так асталося па сённяшні дзень. Так што ўжо неўзабаве з Нараўкі ў Бандары будзем ездзіць па асфальце. У Бандары, значыць, на будучае Семяноўскае мора. У гэтым некалі ціха-сонным кутку ўсходняй Беласточчыны маем вельмі добрыя, роўныя дарогі. Якраз цяпер заканчваецца пабудова асфальтаванай дарогі на некалькікіламетровым адрэзку Бандары — Юшкаў Груд. А ўжо з Юшкавага Груда добрая шасейная дарога ў Міхалова і далей у Беласток.

І яшчэ будуюць адну асфальтаваную дарогу з Бандароў у Тарнопаль і адтуль у простай лініі ў Семяноўку. Так што цяпер тут, як мала дзе ў гэтым баку, па верхнім цячэнні Нарвы і найбольшым адрэзку цячэння ракі Нараўка (яна недалёка ад Бандароў, а ўжо дакладна ля Бяндзюгі ўпадае ў Нарву) самыя лепшыя дарогі. Па іх мы будзем ездзіць адпачываць на нашае мора на Беласточчыне, на Семяноўскае. **(яц)**



**Гарадскія замалёўкі.** Сямяцічы ў поўдзень. Фота М. Гайдука.

**БУГ У АГНІ**

# ГАЛГОФА

Прыпомніў я сабе гэтую біблійную Галгофу, калі ва ўспамінах Івана Шыбакова пра яго пакутніцкія бадзянні па гітлераўскіх лагерах натрапіў на гару з назвай **„Святы Крыж“**.

*„Пад канец красавіка 1942 года нас перавезлі ў горад Астровец або Кельцы і пасадзілі ў турму на гары Святы Крыж...“* — прадаўжае ён свае ўспаміны. Памяць яго і на гэты раз не падвяла, бо сапраўды непадалёк ад горада **Кельцы,** на ўсход ад яго, там, дзе распасціраецца вёска **Новая Слуп'я,** гітлераўцы наладзілі надзвычай суровы лагер для савецкіх ваеннапалонных.

*„Існаваў ён,* — чытаю ў энцыклапедычным даведніку, — *у гадах 1941—1942. Памяшчаўся ў турме, пабудаванай на Лысай гары (Святы Крыж). Першы транспарт, які накіравалі туды летам 1941 года, налічваў нейкіх тысячу чалавек. У сярэднім знаходзілася там больш-менш 2000 палонных, сярод якіх часта лютавала эпідэмія тыфу і іншых хвароб. Здараліся даволі часта таксама выпадкі смерці ад голаду. Памерфшых хавалі на могільніку для ваеннапалонных непадалёк лагера, ва ўрочышчы Бельнік.“*

Столькі дакумент. А які малюнак Святога Крыжа з Лысай гары захаваўся ў памяці Івана Шыбакова, які прайшоў праз гэтую „Галгофу“?

*„Гэтая турма,* — піша ён, — *з усіх бакоў абведзена была высокай каменнай сцяной. Я знаходзіўся ў 59 камеры, на другім паверсе. Яшчэ ў маі на гары ляжаў снег і ў камерах таксама было яго поўна. Вокны не мелі шкла, свяцілі пустымі, закратаванымі прабоінамі. Кармілі нас адзін раз у суткі вадзяністай пахлёбкай. На сценах калідора кідаліся ў вочы перасцерагальныя надпісы:*

**„ЛЮДОЕДСТВО БУДЕТ НАКАЗАНО РАССТРЕЛОМ“.**

*...і было людаедства...“* — сціпла, але згодна з праўдай дапаўняе Іван Шыбакоў.

Так, ведаю: сёння гэта нам не ўмяшчаецца ў рамках чалавечых паводзін. І гэта праўда. Толькі, як кожная іншая, так і гэтая „праўда“, мае два аднолькава вартасныя бакі. Адзін бок: людзі, даведзеныя да крайнасці, да адчаю, каб ратавацца ад смерці, ад голаду, абгрызалі косці сваіх памерфшых таварышаў.

Але хто іх да гэтага прымушаў? Хто стварыў умовы, у якіх чалавек затрачваў чалавечае аблічча? Хто людаедства прызнаў як норму дзяржаўнай палітыкі?

Мяркую, што ў адказах на гэтыя пытанні выручыла мяне гісторыя. Дык я вяртаюся да ўспамінаў Івана Шыбакова, які піша:

*„У ліпені 1942 года нас перавезлі ў Германію, у горад Гамельбург, а праз месяц — у горад Рэгенсбург. Многа палонных пагналі на працу на завод Месершмідта, дзе будавалі транспартныя самалёты. Я быў яшчэ вельмі аслаблены і на працы на фабрыку не мог хадзіць. У кастрычніку або ў лістападзе 1942 года тых сярод нас, хто не працаваў на заводзе, адправілі ў горад Зельб, на фабрыку фарфоравых вырабаў у мясцовасці Розенталь...“*

Розенталь. Назва прыгожая, паэтычная, бо абазначае „даліну роз“. Але не для ўсіх пахла яна розамі. Праўда, было ўжо шмат лягчэй, як у папярэдніх лагерах, але і тут знуткаванні і здзекі, насмешкі і прыніжэнне чалавечай годнасці здараліся часцей, чымсьці нармальная штодзённая страва.

Работа была вельмі цяжкая. Капаць, насіць, вазіць, мясіць гліну. Гэта аказалася непадсілу Івану Шыбакову, левая рука якога яшчэ не зусім добра працавала і агульнае аслабленне выключыла яго з ліку поўнавартасных рабочых. Тры такія людскія шкілеты, якія невядома якім цудам трымаліся яшчэ жыцця, былі накіраваны на службу да загадчыка па гаспадарчай часці іншага завода. Загадалі ім замятаць, прыбіраць, наводзіць чысціню і парадак.

*„З намі разам,* — расказвае Іван Шыбакоў, — *быў яшчэ адзін чэх, па прозвішчу Надворнічэк, камуніст, даўнейшы вязень. Ён здабываў для нас прадукты і прыносіў звесткі аб падзеях на фронце. Да гэтага часу я быў так моцна знясілены, што мой шкілет важыў ледзь 38 кілаграмаў...“*

**(Працяг на стар. 6)**

**(Працяг са стар. 1)**

# СЛОВА ПРА МУЖНАСЦЬ

Наблізіўся фронт, прыйшло вызваленне. І Парфенюкі шчасліва дачакалі яго. Думалі, зажывуць цяпер спакойна ў сваёй свабоднай краіне, але іх чакала далейшае змаганне, барацьба за стварэнне народнай улады.

У доме Парфенюкоў збіраліся дзеячы, раіліся, як абараніць маладую народную ўладу і новы лад ад падземных банд, ад узброенай рэакцыі. У хаце Парфенюкоў адбылося арганізацыйнае пасяджэнне Павятовага камітэта Польскай рабочай партыі. Першым сакратаром быў выбраны Васілюк, а Парфенюк увайшоў у склад экзекутывы. Перад камітэтам стаялі вялікія заданні. Неабходна было разбудоўваць рады ППР, ствараць гмінныя ўлады, адбудоўваць знішчанае, праводзіць сельскагаспадарчую рэформу, змагацца з рэакцыяй і яе прапагандай аб часовасці народнай улады.

Ад верасня 1944 года Мікалай Парфенюк выконвае адказную функцыю ў павеце — з'яўляецца кіраўніком асяродка інфармацыі і прапаганды. Мікалай Парфенюк працуе многа, выязджае ў вёскі, інфармуе аб пастановах ПКВНу, наглядае за правядзеннем сельскагаспадарчай рэформы. Як дэлегат Беластоцкага ваяводства разам з Феліксам Лёркам — начальнікам Ваяводскага ўпраўлення інфармацыі і прапаганды (створана ўпраўленне 12.08.1944 г.) бярэ ўдзел у пасяджэнні ў Любліне адносна праекту сельскагаспадарчай рэформы (тады яшчэ не ўся Беласточчына была вызвалена ад немцаў), а пазней, 30 снежня 1944 года ўдзельнічае ў Любліне ў сялянскім Кангрэсе вызваленых зямель Народнай Польшчы.

— Усё цяжка расказаць, бо і прызабылася шмат, — гаворыць Мікалай Парфенюк. — Але станаўленне народнай улады праходзіла ў нас у вострай барацьбе з рэакцыйнымі бандамі, якія забівалі прыхільнікаў новага ладу.

Мікалай Парфенюк пераходзіць працаваць у органы бяспекі і аж да 1950 г. працуе там. Ад 1951 года Мікалай Парфенюк — намеснік старшыні Гарадской рады ў Бельску, пазней працуе кіраўніком аддзела веравызнанняў Павятовай рады, ад 1956 да 1969 года, гэта значыць аж да адыходу на пенсію, з'яўляецца першым сакратаром Гарадскога камітэта ПАРП у Бельску. Але адыход на пенсію зусім не абазначаў у яго адыходу ад грамадскай дзейнасці. Ён член пленума КМ ПАРП, намеснік камісіі партыйнага кантролю, радны Гарадской рады нарадовай, лаўнік раённага суда і прэзас СОП у Бельску. За сваю прафесіянальную і грамадскую дзейнасць удастоены высокіх дзяржаўных узнагарод. Ён, між іншым, кавалер Ордэна штандару працы II класа.

Мікалаю Парфенюку зараз 73 гады. У яго дзве замужнія дочкі, якія жывуць у Лодзі. Ён адчувае сябе добра і далей з'яўляецца актыўным партыйным і грамадскім дзеячом.

Вось такі скарочаны жыццёпіс Мікалая Парфенюка, выхадца з сялянскай сям'і з Кленік.

Тэкст і фота **Міхася Хмялеўскага**

**(Працяг са стар. 1)**

# ФЭСТ
## У ПЛЮЦІЧАХ

Пытаю іх, што на працягу іх доўгага жыцця змянілася ў Плюцічах.

— Усё змянілася! — усклікае дзядзька Максім. — Я на гэтай жа гаспадарцы трымаў аднаго коніка і дзве кароўкі, а зараз мой зяць гадуе тут 7 штук быдла, трымае кабылу, мае воз-балон і розныя машыны ды прылады. Хто ж тое бачыў у час маёй маладосці!

— І палоскі ў нас яшчэ былі, такія вузенькія як шнуры, — дабаўляе цётка Анюта.

Гэта відаць па забудове панадворкаў. Амаль усе хаты стаяць тут шчытамі да вуліцы. Проста інакш нельга было, не хапала месца іх будаваць. Сёння яны задбаныя, размаляваныя, часта за каляровымі жалезнымі агароджамі. Цешаць вочы сваёй прыгажосцю.

— І паглядзіце, колькі таксовак заraз у нашай вёсцы, — падказвае мне дзядзька Максім. Сапраўды, стаяць яны на многіх, на вельмі многіх панадворках. Найчасцей з беластоцкімі нумарамі. Значыць, дзеці прыехалі ў госці...

І нас таксама просяць у адну хату пагасцяваць. Аказваецца, што ў Плюцічах захаваўся рэдкі звычай, што з нагоды нейкага важнейшага свята, за кожным разам іншая дзяўчына нала-



*Выступаюць беластоцкія „Каласкі“.*

**Віктар Дайліда**

# СТРЭЛЯНЫЯ ВЕРАБ'І

(Заканчэнне)

Я параўняўся са свінарнікам, з-за якога выйшлі два немцы. Адзін нешта загергатаў і махнуў мне рукой. Я толькі зразумеў словы „ком, ком", гэта значыць, хадзі сюды.

Потым я заўважыў, што немцы былі і ў вёсцы. Яны выганялі людзей у поле, крычалі, лаяліся. А жанчыны галасілі.

У натоўпе я заўважыў і Коберца.

— Дзядзька, куды яны нас пагоняць? — спытаў я з трывогай.

— На паляванне, — спакойна адказаў Коберац. — Не бойся. — Потым ён нахіліўся да мяне і шапнуў: — Мы толькі да лесу дойдзем, а там дадзім драпака... Вашы ўсе і мая сям'я ўцяклі ў Кудрыцу. А я застаўся цябе забраць, адчуваў, што яны цябе злыгаюць.

Неўзабаве гарбаносы немец праз перакладчыка даў каманду строіцца ў шарэнгу. І хвілін праз колькі доўгі ланцуг людзей, расстаўленых крокаў на пяцьдзесят адзін ад аднаго, рушыў да кустоў. Гарбаносы немец з перакладчыкам пайшлі пагоркам. А рыжы накіраваўся на край кустоў каля мяне і Коберца на лыжах. За папругу ў яго былі прывязаны абодва сабакі — пярэсты і крывалапы.

Калі мы спусціліся ў лагчыну і спудзілі з лужка зайца, рыжы немец наставіў стрэльбу, хацеў па ім пекануць. Але сабакі кінуліся за зайцам і так дружна тузанулі немца, што ён не ўстаяў на нагах і клюнуў у снег. Заблытаўшыся ў лыжах, ён пачаў вылазіць са снегу і клікаць нас да сябе. Ён нешта доўга і грозна тлумачыў Коберцу, а потым прывязаў пярэстага сабаку яму за руку, а мне за папругу крывалапага дварняку.

— Баіцца, каб мы хаця сабак не пусцілі ў лес... — сказаў Коберац. — Гэта ж хорт, — ён кіўнуў на пярэстага ганчака, — яго спусці з ланцуга, дык ён паляціць у белы свет. Заблудзіцца або разаб'ецца аб дрэва. А гэты рыжы ваўкалака, — Коберац паказаў на крывалапага сабаку, — па лісіных норах лазіць. У яго зуб вельмі востры, любую лісіцу паложыць. Але таксама дурны, бо без гаспадара...

Ісці па цаліку было ўсё цяжэй і цяжэй. Зайцы выскаквалі часта, і сабак не ўтрымаць было. Немчык забіў ужо двух шаракоў і аддаў іх несці Коберцу.

— Пачакай, дай нам толькі ў зараснік увайсці, там мы сіганём за рэчку, — сказаў Коберац, — бо ведаеш, як было ў Міронччыках. Выгналі ўсіх нібыта на паляванне, а пасля пагрузілі на машыны ды ў Германію пагналі. І тут могуць зрабіць тое самае. Так што будзь напагатове. Я махну рукой...

— Дзядзька, і зайцаў забяром? — спытаў я пацішу.

— Абавязкова. А гэтых нявольнікаў пусцім, — кіўнуў ён на сабак. — Няхай гуляюць...

Да алешніку заставалася недалёка. Мы выйшлі на балота, пакрытае лядком. Я ўсё пазіраў на Коберца, калі ён будзе махаць рукой. Але ён, цікуючы за немцам, усё ішоў і ішоў. Уся шарэнга загоншчыкаў рассыпалася па балоце, зарослым алешнікам, лазняком і чаротам. Чуваць былі крыкі, трэск, гоман. Рыжы немец таксама ўвайшоў у кусты. Раптам у лазняку пачуўся стрэл, потым другі. І праз хвіліну адтуль выскачыў вялікі заяц. У гэты час Коберац махнуў мне рукой і пусціў сабаку. Я таксама пусціў свайго крывалапага.

— Хутчэй!.. — зноў мне махнуў рукой Коберац. — Не адставай...

Я бег, як той заяц, пераскакваючы цераз купіны і кусты. У чаравіках мне было лёгка. Я чуў, як ззаду, тухкаючы валёнкамі і цяжка сапучы, бег Коберац. Але не паспелі мы прабегчы і сотні крокаў, як пачулі ззаду крык немца.

Прайшоўшы некалькі крокаў па кустах, рыжы немец чагосьці вярнуўся назад, — мусіць, яму перашкаджалі лыжы, — і, заўважыўшы нас, стаў крычаць: „Хальт! Хальт!" Але мы беглі далей. Тады немец закрычаў яшчэ мацней. І праз момант пачуўся звонкі праняжны стрэл. Коберац крыкнуў мне:

— За стог... За стог хавайся!..

Я рвануў за стог, які стаяў непадалёку, і прыціснуўся шчакой да сена. Немец стрэліў яшчэ раз. Я хацеў зноў даць цягу, але ў гэты час за стог кінуўся і Коберац.

— Куды?.. — грозна вызверыўся ён на мяне. — Назад!.. — І, выхапіўшы з кішэні пісталет, выглянуў з-за стога, нацэліўся і стаў чакаць. Я замёр,уціснуўся ў сена. Мне ўжо чуваць было, як пад нагамі ў немца, што падбягаў да стога, затрашчаў алешнік і чарот. Коберац стрэліў два разы запар.

Як падаў немец, я не бачыў, толькі паспеў заўважыць, як ён ляжаў на снезе, а Коберац падбег да яго, схапіў стрэльбу і патранташ. Мы зноў паімчаліся ў лес. Я стараўся не адставаць ад Коберца. Але бегчы цяпер станавілася ўсё цяжэй і цяжэй. Ногі не слухаліся.

— Трымайся, Петрык... — выдыхнуў у мяне над вухам Коберац. Ён схапіў мяне пад руку, пацягнуў уперад, але мяне агарнула такая слабасць, што бегчы далей я зусім не мог.

— Вось жа і лес... — казаў Коберац, трымаючы мяне пад руку. — Яшчэ пару крокаў. Трымайся...

Але я зачапіўся нагой за нейкую ламачыну і ўжо каля самага лесу рухнуў у снег.

— Ну што ты, уставай, — Коберац пацягнуў мяне за адзежыну.

Але я ляжаў у снезе, як сноп. Тады ён схапіў мяне пад пахі і панёс па лясной дарозе.

У лазняку яшчэ чуліся стрэлы. Але Коберац ішоў і ішоў. Спыніўся ён толькі тады, калі адышоў ад балота далёка ў лес.

Цяпер толькі я крыху апамятаўся. Зірнуў на Коберца і крыкнуў:

— Дзядзька, у вас жа кроў на назе!

— Дзе? — спытаў ён, аглядаючы ногі.

— А вось ззаду...

— Ага... — спакойна прамовіў Коберац і сеў на пень.

(Працяг на стар. 7)

ЗОР-КА

Аня Федарук заняла другое месца ў конкурсе беларускай песні для школьнікаў. Фота Я. Чэрнякевіч.

## Пазнаёмімся

СССР, г. Ростов-на-Дону, пос. Чкалова, ул. Казахская, д. 101, кв. 2. Иванченко Лене. Дзяўчынка скончыла трэці клас.

*

СССР, 353400, Краснодарский край, ст. Топельная, ул. Горького, д. 9. Чаиркиной Ларисе. Дзяўчынка скончыла шосты клас.

*

СССР, г. Тула — 5, пос. Мясново, 4 проезд, дом 66, кв. 86. Киселёва Лариса. Дзяўчынка скончыла 4 клас.

*

СССР, 344080, г. Ростов-на-Дону, пер. Цокольный, 1 Д. Курьяновой Марине. Дзяўчынка скончыла шосты клас.

*

Янка Леанюк, скончыў пяты клас, вёска Наваюорніна, пошта 17-205, Новаберазова, Беластоцкае ваяводства.

*

Савіцкая Бася, скончыла пяты клас, Трасцянка 222, пошта 17-213 Трасцянка, Беластоцкае ваяводства.

*

Рыбінская Іра, скончыла пяты клас, Трасцянка 37, пошта 17-213 Трасцянка, Беластоцкае ваяводства.

*

СССР, 183017, г. Мурманск, ул. Лобова, д. 34, кв. 27. Шалышкиной Лене. Дзяўчынка скончыла шосты клас.

*

СССР, 300005, г. Тула — 5, Мясново, 4 пр., д. 66, кв. 56. Листратенко Ира. Дзяўчынка скончыла шосты клас.

## ВЯСЁЛЫ КУТОЧАК

Хлопчык вырашыў пакупаць свайго малодшага брата. Ён пасадзіў малога ў ванну і спытаў:

— Ну як табе падабаецца маё купанне? Не горш чым у мамы?

— Вядома, — сказаў малы, весела бавячыся ў вадзе. — Толькі мама заўсёды спачатку скідае мне чаравікі.

*

— Табе яшчэ баліць зуб? — пытае Грыша сябра. — Калі б гэта быў мой зуб, я яго даўно вырваў бы...

— Я таксама вырваў бы, каб гэта быў твой зуб... — адказвае сябар.

## АДГАДАНКА

Спалучы кропачкі, азначаныя лікамі ад 1 да 38, і ты ўбачыш, што атрымалася.

Адрас рэдакцыі „Зорка", 15-950 Białystok, ul. Wesołowskiego 1.

# Зайздрасны багацей

Беларуская народная казка

Жылі два браты — бедны і багаты. У беднага была вялікая сям'я. Кожны дзень ён толькі і думаў, чым яе накарміць.

Прыйшоў аднаго разу бедны брат да багатага і просіць:

— Пазыч, братка, хоць якую асміну збажыны. Дзеці з голаду пухнуць...

Узлаваўся скупы багацей, нагамі затупаў, закрычаў:

— Ідзі к чорту! Няхай ён цябе накорміць!

Заплакаў бедны брат і пайшоў у свет шукаць хлеба для галодных дзяцей.

Дайшоў да нейкай рэчкі, што абрасла зялёнымі кустамі. А тут і ноч настала. Бачыць — перакулены човен на беразе ляжыць. Ён залез пад яго і заснуў.

Раптам чуе праз сон над сабою такую гаворку:

— Ну, расказвайце, браты мае — чэрці, дзе за апошні час бывалі, што параблялі.

— Я, — кажа адзін чорт, — на млын лятаў. Чароўны клінок там пад жорны запхнуў. Цяпер млын стаіць — не меле.

— Добра зрабіў, — пахваліў яго першы чорт. — А ты чым займаўся? — запытаўся ў другога чорта.

— А я, брат, не дрэнную штуку выдумаў: падкінуў атрутную жабу пад падлогу ў царскім палацы, дзе маладая царэўна жыве. Цяпер яна будзе хварэць, пакуль не здагадаецца ды не выганіць той жабы з-пад падлогі. А сам ты, брат, што карыснае зрабіў?

— Я, — сказаў першы чорт, — выхапіў з банка мяшок золата. Нёс яго сюды, ды не данёс: заспявалі пеўні, і я кінуў яго недалёка адсюль у кустах.

Пагаманілі гэтак чэрці паміж сабою ды зніклі.

Раніцай бядняк устаў, патупаў сюды-туды па кустах і знайшоў золата. Занёс яго дахаты, а сам да млынара пайшоў.

— Як твой млын? — пытаецца ў яго. — Меле?

— Не, чалавеча, — скардзіцца млынар. — Нешта яму зрабілася, ніяк наладзіць не магу.

— Давай я паспрабую.

Падышоў бядняк да жорнаў, глянуў пад камень і ўбачыў чароўны клінок. Выкінуў яго — млын і закруціўся на поўны ход.

Рады млынар, не ведае, як і дзякаваць таму бедняку.

— За гэта я табе, чалавеча, воз мукі прывязу, — кажа.

— Добра, прывозь.

Напёк бядняк хлеба, дзяцей накарміў, сам наеўся і падаўся ў царскі палац.

Прыходзіць і просіць вартавога, каб той далажыў цару, што ён можа яго дачку вылечыць. Цар, вядома, не паверыў. Але кажуць жа: тапелец і за саломінку хапаецца.

— Пусці яго, — кажа цар свайму вартавому. — Няхай паспрабуе.

Выгнаў бядняк з-пад падлогі атрутную жабу — царэўна і ачуняла: песні заспявала.

Ну, вядома, і цар добра аддзякаваў бедняку. Жыве ён цяпер і бяды не знае.



Убачыў багацей, якім стаў яго бедны брат, і пытаецца ў яго:

— Адкуль у цябе такое багацце?

— Чорт даў! — адказвае той. — Памятаеш, ты паслаў мяне к чорту. Вось ён і абагаціў мяне.

І расказаў, як гэта было.

Кінуўся зайздросны брат да той рэчкі, залез пад човен і чакае.

Настала ноч. Прылятаюць да чоўна чэрці і пачынаюць сваю гаворку.

— Быў я ў млыне, — кажа першы чорт. — Дык што ж вы думаеце: нехта здагадаўся і выбіў мой чароўны клінок з-пад каменя... І цяпер той млын меле яшчэ лепш, як малоў.

— І ў мяне няўдача, — кажа другі чорт. — Нехта выгнаў жабу з-пад падлогі, і царэўна ачуняла...

— Дзіва! — усклікнуў трэці чорт. — Са мною таксама прыгода здарылася: золата маё як вадою разлілося... Ці не падслухоўвае хто нас тут?

Кінуліся чэрці шукаць і знайшлі пад чоўнам багацея.

— А-а, — закрычалі яны ў адзін голас. — Вось хто наша золата забраў, нашы чары расчараваў!

І давай яго тузаць ды біць.

Ледзь жывы вярнуўся багацей дахаты.

Мікола Чарняўскі

## Сцяжынка

*— Сцяжыначка-сцяжыначка,*
*Куды бяжыш, скажы?*
*Спыніся на хвіліначку,*
*Кірунак пакажы...*

*Спынілася ля гаю.*
*— Куды бягу,*
*Сказаць?*
*Сяброўак даганяю,*
*Ды не магу дагнаць.*

*Яны ўжо ў полі чыстым,*
*Бягуць, як раўчукі,*
*Праз жыта,*
*Луг квяцісты*
*І берагам ракі.*

*Пабеглі разам, хочаш? —*
*Нам будзе весялей.*
*Са мной пабачыш, хлопча,*
*Ты шмат дзівос, людзей.*

*Яшчэ раднейшай стане*
*Бацькоўская зямля.*
*Цябе аднойчы ўранні*
*Я выведу на шлях.*

*На светлы шлях юнацтва,*
*Што павядзе далей,*
*Каб з працаю спазнацца,*
*Жыццё пазнаць глыбей...*



# Паглыбляй свае веды

## З ГІСТОРЫІ АЛІМПІЯДЫ

19 ліпеня ў Маскве пачынаюцца XXII у гісторыі спорту алімпійскія гульні.

Як вядома, з 776 года да нашай эры і па 292 год нашай эры на Пелапанескім паўвостраве ў невялічкім гарадку Алімпія праводзіліся алімпійскія гульні.

Першыя сучасныя алімпійскія гульні адбыліся ў Афінах у 1896 годзе. Заснавальнік сучаснага алімпійскага руху, французскі грамадскі дзеяч і педагог П'ер дэ Кубертэн запрапанаваў праводзіць Алімпіяды ў розных краінах, бо гэта надасць алімпійскім гульням міжнародны характар. Міжнародны Алімпійскі Камітэт згадзіўся з яго думкай.

Другая Алімпіяда адбылася ў Парыжы — у знак прызнання заслуг П'ера дэ Кубертэна. Ад трэціх алімпійскіх гульняў розныя гарады свету выстаўлялі свае кандыдатуры на правядзенне Алімпіяд. 43 гарады ў розны час прапанавалі стаць сталіцамі алімпійскіх гульняў. І з кожным разам узрасталі патрабаванні да спартыўных баз, да алімпійскіх вёсак, і ўсяму таму, што спрыяе добраму правядзенню Алімпіяды.

Двойчы праводзілі гульні Парыж і Лондан. У пасляваенныя гады выйгралі конкурсы Мельбурн і Мюнхен. Вельмі вострую канкурэнцыю вытрымаў Рым перад Алімпіядай-60. 16 гарадоў тады выставілі свае кандыдатуры. Тры разы хацеў стаць сталіцай Мехіка, і толькі ў 1968 годзе здабыў такое права. Яшчэ больш стараўся Манрэаль — у 1940 і 1944 годзе правядзенню Алімпіяд перашкодзіла вайна, потым сталіцамі гульняў былі Мельбурн і Мюнхен. І толькі ў 1976 годзе Манрэаль стаў сталіцай алімпійскіх гульняў.

Пяць разоў хацеў стаць сталіцай Алімпіяды Буэнас-Айрэс. Шэсць разоў прапанаваў сябе Дэтройт — цэнтр амерыканскай аўтамабільнай прамысловасці. Але так і не здабыў патрэбнай колькасці галасоў у Міжнародным Алімпійскім Камітэце.

Масква здабыла права стаць сталіцай Алімпіяды за другой спробай.

А вось пералік сталіц Алімпіяд у гісторыі сучасных гульняў: 1896 г. — Афіны, 1900 г. — Парыж, 1904 г. — Сент-Луіс, 1908 г. — Лондан, 1912 г. — Стакгольм, 1920 г. — Антверпен, 1924 г. — Парыж, 1928 г. — Амстэрдам, 1932 г. — Лос-Анджэлес, 1936 г. — Берлін, 1948 г. — Лондан, 1952 г. — Хельсінкі, 1956 г. — Мельбурн, 1960 г. — Рым, 1964 г. — Токіо, 1968 г. — Мехіка, 1972 г. — Мюнхен, 1976 г. — Манрэаль, 1980 г. — Масква. (яч)

Дзяўчаткі з Кленікаў, удзельніцы конкурсу беларускай песні для школьнікаў. Фота Я. Чэрнякевіч.

(Працяг са стар. 5)

## СТРЭЛЯНЫЯ ВЕРАБ'І

Ён скінуў валёнак, падкурчыў нагу і, закасаўшы калашыну, пачаў выкалупваць складанчыкам з нагі шраціну. Пасля ўсцягнуў валёнак і зірнуў на мяне:

— Э, хлопча, дык у цябе кажух прастрэлены.

Я зняў свой кажушок і сапраўды ўбачыў на плячах дзве маленькія дзірачкі.

— Ага. Вось калашман рыжы. А можа, яны дзе ў спіне заселі? — занепакоіўся я, аглядаючы кажушок.

— Ды не... Не бойся, — усміхнуўшыся, адказаў Коберац. — Цяпер мы, брат, стрэляныя вераб'і, і ніякі шрот, ніякая куля нас не возьме. Прытым, мы ж са зброяй...

— А вы яго лоўка цюкнулі... — сказаў я, аглядаючы наш трафей.

— А як жа... — спакойна адказаў Коберац. — Так будзе ім усім. Мы іх будзем біць, пакуль не ачысцім ад погані ўсю нашу зямлю. Во, брат, якая справа... А цяпер пойдзем. Да вечара дабяромся да Кудрыцы. А там — і да партызан.

Я ішоў услед за Коберцам, стараючыся не адставаць. Цяпер ён мне здаваўся нейкім вялікім, плячыстым і дужым.

Я радаваўся, што ўбачу сапраўдных партызан. І яшчэ мне было радасна ад таго, што мы ўжо стрэляныя вераб'і і цяпер нас ніякі шрот, ніякая куля не возьме.

# БЫЦЬ НАЧАЛЬНІКАМ

Кожны з нас мае шмат клопатаў і праблем, якія намагаецца рашыць у органах мясцовай адміністрацыі. Спяшаем тады да той установы з думкай, што нам начальнік паможа. Калі справа вырашаецца ў наш бок, хвалім уладу і начальніка, а калі не, дык бедна яго галованька.

Быць начальнікам, усім дагадзіць — гэта цяжкая справа. Як выглядае дзень працы начальніка? — задаваў я сабе пытанне. І надумаў прыгледзецца гэтаму бліжэй.

Панядзелак. Звычайны дзень. У Кляшчэлях кірмаш. Складаю візіт начальніку гміны Васілю Міхноўскаму. Перад дзвярыма яго кабінета чарга кліентаў. Чакаю і я.

Калі выявіў мэту свайго візіту, гр. Міхноўскі з усмешкай запрашае: калі ласка, сядай і прыслухоўвайся.

Першы наведвальнік. Малады чалавек з Дашоў. Працуе ў Беластоку на дзяржаўнай пасадзе. Прыйшоў у справе прыдзелу этэрніту на абору.

— Пераймаю гаспадарку па бацьку, — гаворыць. — Трэба рамантаваць абору, дах працякае. Вы ж абяцалі ў першым квартале...

— Я ўжо гаварыў бацьку, — адказвае начальнік. — Ён жа разы чатыры быў. І чаму вас пасылае, а сам не прыходзіць?

— Я таксама гаспадар...

— Вы працуеце ў Беластоку.

— Дык стану гаспадаром...

— Гэта я вырашаю гэтую справу.

Кліент начынае галасней тлумачыць сваю рацыю. Пры гэтым безупынна паўтарае: „Не прызнаеце зараз, дык пабачым...“

І начальнік пачаў нервавацца.

— Я ж тлумачыў ужо, — кажа, — што апошні прыдзел прызначалі тым сялянам, якім ураган пазрываў дахі. Так рашылі супольна з ПЗУ, а ў вас толькі дах працякае. Ці я заказваў гэты ўраган?!

А калі і тое тлумачэнне не памагло, начальнік рашуча заявіў: — Размова закончана, паўтараць не буду...

Калі наведвальнік выйшаў, начальнік дабавіў:

— Бацька разы чатыры быў. Гаспадар з яго нядрэнны, ды такі дакучлівы... І з пераказаннем гаспадаркі нічога не выйдзе. Бацька яшчэ не ва ўзросце пенсіянера, інвалідам таксама не з'яўляецца...

Неўзабаве прыйшоў і сам гаспадар. Але з ім ужо размова была кароткая.

А. М. з Дабрывады прыйшоў у справе перапісання дзялянкі лесу і пашы зяцю, які працуе ў Семяноўцы.

— Гэта немагчыма, — кажа начальнік. — Лес пачнуць нішчыць людзі, калі даведаюцца, хто яго гаспадар. Зноў будзеце прыходзіць са скаргамі.

— Дык гэта ж пасаг, зразумейце. Дачцы не растлумачу, што закон забараняе ў такіх выпадках.

— Нічога не выйдзе...

І гэтым разам кліент выходзіць „пакрыўджаны“. Толькі гэты добразычліва развітваецца і з іскрынкай надзеі кідае ўжо ў дзвярах:

— А мо аднак, пане начальнік?..

Наступнаму наведвальніку СКР знішчыў пашу і зваліў на кавалак яго дзялянкі ўгнаенні. Тут кароткая тэлефонная размова начальніка з дырэктарам СКР вырашае праблему. На гэты раз у карысць селяніна.

Яшчэ адзін цікавы кліент — жыхар Дабрывады, пенсіянер.

— Што гэта за парадкі, пане начальнік! — пераступаючы парог кабінета, амаль крычыць М. С.

— У чым справа?

— А ў тым, што адзін сваю пашу прадае, другую дзялянку іншаму ў арэнду аддае, а сам дарэмна на ПФЗ косіць. А ў мяне адна кароўка, і то няма дзе пасвіць!

— Добра, што сказалі, а то ўжо двое было ў гэтай справе, толькі не ведалі, хто гэта скасіў...

— Вучоны знайшоўся, — ужо спакайней пачаў М. С. — Лепш я сваю кароўку там папасу...

— Вы там не будзеце пасвіць, — заяўляе начальнік. — Гэта дзялянка прызначана на продаж. Зразумелі?

Аднак селянін не хацеў разумець. Пачалася спрэчка, ды такая гумарыстычная, што мы ўсе рассмяяліся.

Штораз у кабінет заходзіў усё хто іншы. Працаўнікі гміны, наведвальнікі. Разнародная блытаніна спраў, сапраўдная галаваломка. Аднаму чалавеку нялёгка ў гэтым разабрацца. А начальніку — абавязак. Ды пры гэтым нельга памыліцца. Ад яго добрасумленных, справядлівых і разважных рашэнняў залежыць рэпутацыя ў сялян.

Цяпер я сапраўды зразумеў, што быць начальнікам — цяжкая справа.

**Ул. Сідарук**




# ЛІСТ У РЭДАКЦЫЮ

Дарагая „Ніва“! Хачу падзяліцца з табой маім сакрэтам: у мяне фінансавыя цяжкасці. Кажуць, што Хемінгуэй, калі меў фінансавыя цяжкасці, то напісаў „Старога і мора“. У мяне фінансавыя цяжкасці ўжо ёсць. Ёсць нават літаратурная творчасць. Не хапае толькі бліскучых поспехаў і нейкага Нобеля.

Дасылаю тады табе свае вершы. Толькі ў мяне адна просьба: калі нешта надрукуеш, дык падпішы псеўданімам „Мальвіна“ (баюся рэпрэсій з боку мужа).

Адкуль узяліся ў мяне фінансавыя цяжкасці? Гэта проста. Яны прапарцыянальныя да колькасці дзяцей і адваротнапрапарцыянальныя да поспехаў у сваёй прафесіі. Калі пачынаюць гаварыць нешта наконт маёй прафесіі (вельмі сучаснай і не менш фарсістай, бо радыётэхнік), я раблюся маўклівай і разгубленай, быццам прафесія была інтымнай часткай гардэроба. Табе прызнаюся без какецтва: мая прафесія мне не выйшла. Я ўжо 10 год працую ў гэтай галіне, а зарабляю не вельмі многа. Знайсці новую працу жанчыне не лёгка. У „Каро“ трэба мець спрыт, якога мне якраз не хапае, а „Унітра“ працуе ў невыгодных для мяне гадзінах (ваджу дзяцей у прадшколле). Наогул, я не ўяўляю сабе, дзе я магла б працаваць і на што я прыгодна. Адно, што я люблю рабіць, гэта чытаць мастацкую літаратуру на розных мовах і параўноўваць. І тут прыйшла мне геніяльная думка: магу быць перакладчыкам! Не ведаю толькі, куды мне з гэтым звярнуцца і ці мяне там прымуць.

Скажу табе яшчэ адно, але гэта ўжо па сакрэту: я кахаю сваю прафесію. І таму недзе на дне сэрца (гучыць гэта банальна, але ж я не пішу верш, а зусім прыватнае пісьмо) боўтаецца мізэрная чвэрць-надзея, што калі я ўжо зараблю на перакладах і палепшу трохі свае фінансавыя цяжкасці, (а яны былі ў мяне „ад айца да канца“), дык дайду да ладу нават са сваёй прафесіяй.

Апрача гэтага, патрэбны мне грошы (дазарэзу) яшчэ па адной прычыне: мне неадкладна трэба развесціся, не чакаючы, калі маё шлюбнае „шчасце“ падаб'е мне яшчэ і другое вока. А так у мяне ўсё ў парадку.

**Ад рэдакцыі:** добра, цётанька, што не пакідае цябе аптымізм. Верым табе і прымаем у нашу сям'ю.

ЯКІЯ МЫ ЛЮДЗІ

# ЦАЛАВАЦЬ ЦІ НЕ ЦАЛАВАЦЬ

Да пісання я не хуткі і на тэму „цалаваць ці не цалаваць“ хацеў махнуць рукою. Падумаў: няма аб чым весці дыскусію. Але ж чытачы прымусілі мяне ўзяць голас у гэтай справе. Я стары дзядуля, ды мала пісьменны, і маё пісанне нескладное, але што думаю, тое пераліваю на паперу. Па-мойму, добра адказала Пастаяннаму чытачу Агата. Але ж і сябра Васіль Петручук далажыў у дыскусію з другой бочкі, закавырнуў неахайных людзей. Дазвольце, што і я ўсуну свае тры грошы. Па-мойму, гэта было так. Калі Пастаянны чытач сустрэў свайго сябра і той прадставіў яму сваю жонку, а тая, калі наш Пастаянны чытач хацеў у ручку яе пацалаваць, не дазволіла, значыць цябе высока цаніла, не хацела цябе прынізіць. Ты ж сябар яе мужа!

Цалаванне існуе здавен-даўна. Дзве тысячы год таму назад цалаваў Іуда Хрыста. І цалаванне бывае па-рознаму: у рукі, у шчокі і на ўсе бокі, як хто хоча, так цалуе. А што датычыць неахайных людзей, то на гэту тэму можна многа гаварыць. Давялося мне з многіх печаў хлеб і бульбу есці. Было і так, што ў аднаго быў на рабоце, а да суседа хадзіў сталавацца, бо бачыў, што гаспадыня цадзіла малако і адцэджвала бульбу падолкам ад сарочкі, якую на сабе мела. І такія неахайныя здараюцца ў кожнай вёсцы. Але праз адну такую мы не можам усіх зневажаць, хаця ёсць прыказка, што адна паршывая авечка ўсё стада запаскудзіць. Прыпомніў я свае маладыя гады. Паехаў я да цёткі ў госці. Тая мяне пазнаёміла з дзяўчынай. Прабыў у яе цэлую ноч. Цалаваліся мы з ягадкаю колькі хацелі. На ад'езд пайшоў да ягадкі развітацца ды яшчэ раз пацалавацца, а яна, відаць, ела яечкі смажаныя і наклала сабе на бародку. Гэтым мяне збрыдзіла. Адхацелася цалавання, і больш я туды не паехаў. А зараз хачу пару слоў напісаць да моладзі. Калі ты, хлапец, хочаш натрапіць на ахайную дзяўчыну, якая будзе табе добра дом весці, а не задам трасці, папрасі ў яе кубак вады. Калі яна табе хуценька падасць у чысценькай пасудзіне, значыць, у яе ўсё чысценька. А як перш пойдзе мыць кубачак або яшчэ ў брудным падасць, уцякай ад яе. Другі спосаб: вазьмі знарок скалеч сабе палец на руцэ і папрасі ў яе анучку завярнуць, каб кроў не ішла. Як яна хуценька зной-

(Працяг на стар. 7)

ФАЛЬКЛОР

### СЯМЕЙНАЯ




*Ой, сіжу я, сіжу за рышотачкаю,*
*пролівою горкі слёзы за красотачкаю,*
*пролівою горкі слёзы за красотачкаю.*
*Оддала ж жэнэ мама і у выліку сім'ю,*
*у выліку сім'ю шчэ у чужую сторону,*
*у выліку сім'ю шчэ й у чужую сторону.*
*А выліка сім'я вычораты сіла,*
*а мынэ моладу то й послалі по воду,*
*а мынэ молоду то й послалі по воду.*
*Я й по воду ішла, ны спішалася,*
*а з водою ішла, прыслухалася,*
*а з водою ішла, прыслухалася.*
*Штось у хаты гомоныт — маты сыну говорыт:*
*— Чом ты, сынку, ны п'еш, свэі жонкі ны б'еш?*
*Чом ты, сынку, ны п'еш, свэі жонкі ны б'еш?*
*— А за што ж еі быты, вона уміе ўсё робыты:*
*і спычы, і зварыты і до роду говорыты,*
*і спычы, і зварыты і до роду говорыты.*
*Мамо, мамо мая, мамо рыдная,*
*а што ж тобі провынылась то й дытына чужа?*
*А што ж тобі провынылась то й дытына чужа?*
*А як я еі брав, як той мак росцвытаў,*
*а тэпэр вона стала, што я й сам ны познаў,*
*а тэпэр вона стала, што я й сам ны познаў.*
*А як я еі брав, як і з рожы цвыток,*
*а тыпэр така стала, як быленькі платок,*
*а тыпэр така стала, як быленькі платок.*

Ад Ніны Такаюк, 1924 г. нараджэння, і Яўгінні Вішэнка, 1927 г. нараджэння, вёска Мікулічы гм. Мілейчыцы запісаў у снежні 1979 г. М. Гайдук, мелодыю расшыфраваў Я. Бондар.

джвае ў сябе гасціну для ўсіх сяброў і сябровак. Такім чынам кожнае свята адбываецца па чарзе ў іншай хаце. З нагоды фэсту чарга выпала на **Крысціну Паплаўскую.** Яна сама вучыцца ў адным з беластоцкіх ліцэяў, а яе бацька таксама працуе ў Беластоку, але ўсё яшчэ моцна трымаюцца яны вёскі. На сталах, побач усяго іншага багацця, павіліся свае свежанькія гуркі і памідоры, выгадаваныя пад фальгой...

А да позняга вечара грымелі тут песні — свае, блізкія сэрцу...

Так жыве, працуе і святкуе вёска Плюшчы.

**Віктар Рудчык**
Фота аўтара



*За вёскай, на зялёнай пляцоўцы моладзь Плюціч часта наладжвае спартыўныя гульні. У час фэсту спартыўная каманда з Плюціч разыграла футбольны матч з камандай ПОМ у Бельску.*

(Працяг са стар. 3)

# УРЭШЦЕ ПАПАЛІ

дзіце жанчыну, мо сапраўды ёй нешта дакучае. Мо ёй памогуць дарагія ўколы?

— Як жа я іх дам, калі жанчына здаровая, а ў мяне іх мала?

— Ой, пане доктар, не шкадуйце, няхай хворая хутчэй здаравее.

— Ну, добра, калі ўжо вы, сястра, так упіраецеся, то прыгатоўце шпрыц. А вы, жанчына, падымайце спадніцу!

Хворая рассупонілася, выставіла мяккае месца і сястра ў цётчынае цела ўбіла вялікую іголку з *аквай*. Пякло цётцы, але была задаволена, сказала, што гэта паможа, бо надта пячэ.

На другі дзень цётка пабегла ў амбулаторыю аддзякаваць сястры за укол, які вярнуў ёй здароўе, а на скупога лекара нават не глянула, — дакончыў ілгун.

**Васіль Петручук**

# Незабыўная сустрэча ў Бельску

Літаратурная вясна ў Бельску закончылася цудоўным акцэнтам. 20 чэрвеня г.г. прыехалі да нас пісьменнікі з Беларусі — Аляксей Пысін і Аляксей Гардзіцкі. Завіталі ў Бельскі дом культуры і нашы маладыя паэты — Ірына Баравік і Міхась Шаховіч.

Сустрэча пачалася ад выступлення дарагіх мінскіх гасцей. Яны цікава расказвалі пра літаратурны рух на Беларусі, пазнаёмілі слухачоў са сваёй літаратурнай дзейнасцю. Гэта была непаўторная і дасканалая аказія для бяльчан паслухаць пісьменнікаў з Мінска, даведацца нешта цікавае.

Шчыра дзякуем беларускім гасцям за прыезд да нас, за так займальную сустрэчу.

Маладыя паэты з Беластока — Ірына Баравік і Міхась Шаховіч запрэзентавалі свае паэтычныя зборнікі: „Супраць ветру“, „Праміманне“. І. Баравік прадставіла пачаткі творчасці, прачытала свае апошнія вершы. М. Шаховіч выступіў з паэмай „Святая ноч“. Слухачы з зацікаўленнем выслухалі гэты, поўны роздумаў, твор.

Усім выступаючым сардэчна дзякуем за гэтую незабыўную чэрвеньскую сустрэчу.

**Надзея Артымовіч**




## ВЕР-НЕ-ВЕР

Паважаны Астрон, пішу Вам па-руску, па-беларуску не вучыўся. Ды й па-руску вучыўся ўсяго адну зіму. Так што прабачце! Снілася мне тры разы прыбіральня, смешны сон, праўда? Але так было. І вось уваходжу я ў сваю прыбіральню, а там хтосьці ёсць. Я падумаў, як жа я зраблю тое, чаго прыйшоў... Гляджу ў другі бок, направа, а там быццам бы дзірка шырэйшая і побач ляжыць вялікая куча бульбы. А каля яе куча зялёнай травы, толькі што скошанай.

Што прадвяшчае гэты сон? Зразумела, нічога добрага. Але што б ён не прадвяшчаў, — дрэннае ці добрае, прашу Вас, разгадайце яго, буду Вам удзячны. З пашанай да Вас.

**Чытач „Нівы"**

**Чытач „Нівы"**! Вы так прыгожа напісалі па-руску, што адной зімы, як мы заўважылі, вам хапіла. Таму ваш ліст мы з прыемнасцю пераклалі на беларускую мову. А ведаеце, дзядзька, што сон ваш не прадвяшчае вельмі дрэннае. Відома, будзе пры ўсім гэтым невялікі смурод, бо ўсё ж вы бачылі прыбіральню, але тое, чаго вы так баяліся, не збудзецца. Куча бульбы абазначае для вас найкі прыбытак, а пры гэтым жа заўсёды здараюцца розныя непаразуменні. Зялёная трава, зрэшты, прадвяшчае добры канец справы, бо трава была свежая, толькі што скошаная, інакш бы выглядалі справы, калі б была яна завяўшая — тады абазначала б яна беднасць і няўдачу.

**Астрон**

## Кансультацыя ЮРЫСТА

**ПЫТАННЕ**: В. Б. з'яўляецца інвалідам і атрымоўвае пенсію, запрацаваную на дзяржаўнай рабоце. Жыве са старэнькай маці ў вёсцы. Маці атрымоўвае грошы за здадзеную дзяржаве зямлю. Ці пасля смерці маці В. Б. будзе мець права пражываць у матчынай хаце і карыстацца з дзялянкі, на якой стаіць дом?

**АДКАЗ**: Паводле артыкула 51 закону з 27 X 1977 г. аб пенсіях і іншых належнасцях для сялян і іх сямей, селянін, які перадае гаспадарку дзяржаве за пенсію, можа пакінуць сабе ўсе або некаторыя будынкі. У гэтакім выпадку будынкі з'яўляюцца асобнай уласнасцю ад зямлі, на якой яны знаходзяцца. Селянін можа без ніякіх абмежаванняў распараджацца гэтымі будынкамі. Дзялянка, на якой знаходзяцца будынкі, з'яўляецца дзяржаўнай уласнасцю, але селяніну — уласніку будынкаў прыслугоўвае на гэтай дзялянцы права сервітуту. У выпадку смерці селяніна будынкі ўваходзяць у склад спадчыны. У нашым прыкладзе В. Б. — сын уласніцы хаты з'яўляецца яе наследнікам і будзе мець права пражываць надалей у гэтай хаце.

## Сардэчныя тайны

Дарагое Сэрцайка, я з вёскі і ў гэтым годзе закончыла сельскагаспадарчы тэхнікум. Валодзя, мой хлопец, закончыў той жа тэхнікум тры гады назад і працуе з бацькамі на гаспадарцы. Вядуць спецыялізацыю ў гадоўлі авечак. Мы ходзім ужо два гады, хацелі ўжо пажаніцца, але мая мама не хоча згадзіцца, хоць нічога супраць Валодзі яна не мае, але хацела б, каб я выйшла замуж у горад. Было яшчэ сяк-так. Але вось пачаў да мяне заляцацца інжынер, Ён з нашай вёскі, але жыве ў Варшаве. Немаладыя, яму ўжо больш трыццаці. Ужо яго мама з маёй справы перагаварылі, і цяпер мама цвёрда хоча зрабіць з мяне варшавянку. Я кажу маме, што і хлопец мне гэты не падабаецца, і ў Варшаву мяне зусім не цягне. Я закончыла сельскую школу і ў сяле хачу працаваць. Мы з мамай аж пасварыліся. Бо ці ж магу яе я паслухаць? Кажа, што ў зямлі грэбсціся, то ніякай школы не трэба. Яны ж без школы працуюць. Але гаспадарка ў маіх бацькоў малая. І даход малы. А ў Валодзі праца механізаваная, і даход яны маюць сапраўды вялікі. Валодзя ўжо мне казаў, што калі мама так упіраецца, то і без яе згоды мы можам пажаніцца, мы ж дарослыя. Па-мойму, я маю права сама выбраць і працу і мужа.

Эля з Бельшчыны

Эля, безумоўна, рацыя твая. Валодзя і ты падрыхтаваныя да працы на вёсцы. Рыхтавала ж вас да гэтай працы ваша школа. Погляд мамы, што на вёсцы навука непатрэбная, ужо вельмі ўстарэлы, аджыўшы. Цяперашнія спецыялістычныя гаспадаркі вымагаюць адпаведнай падрыхтоўкі і ведаў. Таму і нярэдка можна спаткаць цяпер на вёсцы гаспадара з вышэйшай адукацыяй. Старайся пераканаць у гэтым маму, а калі ўжо ніякім спосабам не ўдасца, дык, як кажа Валодзя, вы ж паўналетнія і свае справы можаце вырашаць самі.

**Сэрцайка**

## Цікавінка

### ПЛАЧ ПА МЕСЯЦУ

Усякі раз, калі ў Йеменскай Арабскай Рэспубліцы назіраецца поўнае зацьменне Месяца, над Санай, сталіцай ЙАР, успыхае яркае полымя. Сотні кастроў палыхаюць на дахах дамоў, у дварах, на вуліцах горада. Людзі кідаюць у кастры скрыні, дошкі, старую мэблю — усё, што толькі можа гарэць. А па вуліцах рухаюцца факельныя шэсці: гучаць старажытныя гімны, плаўная ўрачыстая мелодыя плыве над горадам, зрэдку перапыняемая жалобнымі выкрыкамі жанчын. Так працягваецца да таго часу, пакуль не паяўляецца сярэбраны серп Месяца. Тады ўсё паступова сціхае. Толькі над плоскімі дахамі спячага старажытнага горада дзе-ні-дзе ўзнімаецца дым ад патухшых кастроў.

Старажытны звычай аплаквання Месяца ідзе ад далёкіх часоў язычства, калі людзі думалі, што ён патухне зусім, і ў жаху запальвалі агонь, каб разагнаць надыходзячы змрок.



**З альбома натураліста.** На могільніку савецкіх воінаў у Бельску.
Мал. Б. Ф. Рудкоўскіна.

## Куток практычных ведаў




### КАПУСТА

Усе гатункі капусты (белая, валошская і чырвоная) належаць да гародніны, у якой знаходзіцца багата вітамінаў, мікраэлементаў і амінакіслот. Белая, напрыклад, мае ў сабе шмат вітаміна Е, валошская — у чатыры разы больш вітаміна А, чым белая, чырвоная — мае больш вітаміна Н. Каб капуста не была такая цяжкастраўная, неабходна пад канец варкі дадаваць змелены кмен і майранак, яловец, сушоныя слівы ці лаўровы лісток. Капусту могуць есці людзі з далікатным страўнікам, нават хворыя на сэрца і вантробу, але для іх капусту неабходна варыць у двух чарговых водах або на пары.

Найздаравейшымі, аднак, з'яўляюцца салаты, падрыхтаваныя з кіслай або сырой капусты. Пчолы не памыляюцца, сядаючы ахвотней на кветкі капусты, чым на іншую гародніну. Мёд тады саладзейшы, далікатнейшы, светлы і празрысты.

Капуста з'яўляецца не толькі смачнай стравай, але можа быць таксама дасканалым лякарствам, паколькі выдаляе яна з арганізму таксіны.

Капуста ліквідуе стомленасць. Можна, напрыклад, зрабіць у міксеры кактэйль з соку белай капусты, лімона, зялёнай пятрушкі і (у сезоне) аднаго яблыка.

Пры кашлі варта піць сіроп з капусцянага соку, лімона і соку з чорнай рэпы, асаладжаны лыжачкай цукру.

Калі хто церпіць на хранічны катар страўніка, трэба піць сок з сырой капусты, дадаючы некалькі кропель лімоннага соку. Піць гэты сок па паўшклянкі ў дзень на працягу тыдня.

Пры запаленні суставаў, камянях у нырках, трэба піць сок з сырой капусты, есці капусту, тушаную са сланечнікавым алеем, дадаючы крыху кмену. Салат з капусты трэба рабіць таксама з лімонным сокам і сланечнікавым алеем.

Усе сокі неабходна падрыхтоўваць перад самай ядой.

Капуста лечыць таксама розныя чыры. Можна рабіць кампрэсы наступным чынам: памыць некалькі вялікіх лісцяў капусты, крыху выцерці іх і парэзаць так, каб пакрывалі хворыя месцы і заходзілі яшчэ сантыметры на тры далей. Памачыць адзін ліст у лімонным соку і палажыць яго на чыр. Іншыя лісткі спырснуць некалькі кроплямі соку і палажыць іх спырснутым бокам у напрамку скуры. Забінтаваць.

Калі апарыце руку, трэба змазаць ліст капусты льняным алеем і хутка прылажыць яго да скуры, забінтаваць.

Пры агульным аслабленні арганізму, пры дрэнным стане нашых нерваў можам два разы ў тыдзень рабіць ванну, у якую дадамо расцертую ў міксеры галоўку капусты і напар са 100 г. мяты.

Для аматараў гучных забаў падаем таксама раду. Кіслая капуста, багатая вітамінам С, змяншае дзеянне алкаголю — яе сок лечыць папулярны „кац".

**Гаспадыня і Эскулап**

# ГАЛГОФА

(Працяг са стар. 4)

Прыгадаю толькі, што тады, у 1942 годзе, Івану Шыбакову споўнілася ўжо 30 гадоў. Сталы мужчына — і 38 кілаграмаў жывой вагі. Што тут яшчэ дабаўляць, каб увідзь сабе гэтую „Галгофу", праз якую ён праходзіў. Толькі яму не з'явілася на дапамогу аніякая цудатворная сіла. Дапамагалі людзі, якія і самі апынуліся ў няшчасці, як той чэх Надворнічэк, як іншыя, пра якія я раней ужо ўспамінаў. Іван Шыбакоў ад усіх іх назаўсёды захаваў удзячную памяць і сам галоўнай мэтай свайго жыцця зрабіў дапамогу іншым, патрабуючым нейкай падтрымкі, асабліва даўнейшым аднапалчанам і сем'ям тых баявых таварышоў, якія дамоў не вярнуліся.

У „даліне роз" роскашы не было, але ў параўнанні з тым, што ўжо давялося яму перацярпець, жыццё тут магло здавацца раем. Тым болей, што з Усходу, а пазней таксама і з Захаду ўсё часцей пачыналі наплываць суцяшальныя весткі аб падзеях на франтах, аб перамогах Чырвонай Арміі. Праўда, гэта выклікала ў іх гаспадароў павышаную варожасць, што праяўлялася ў звычайных знутканнях, якія даводзілася пакорліва цярпець, але радасць падбадзёрвала да жыцця, сэрца шаптала: *„Ужо нядоўга, пацярпі яшчэ, вытрымай! Перамога ўсё ж будзе за намі!"*

Настаў 1945 год. Іван Шыбакоў успамінае:

*„У красавіку 1945 года нас пагналі ад набліжаючагася фронту на поўдзень. Лагер знаходзіўся недзе ў раёне горада Вайдан. Ён быў невялікі. Памятаецца ў ім нейкіх 130—150 чалавек. 23 красавіка 1945 года нас вызвалілі амерыканцы. У Вайдане стварылі яны шпіталь, у якім працавалі лекары — былыя палонныя. Я знаходзіўся ў гэтым шпіталі амаль месяц часу. Набіраў сіл, падмацоўваў здароўе, а саюзнікі заняліся намі вельмі дбайна. 24 мая 1945 года нас перакінулі ў Чэхаславакію і накіравалі ў шпіталь у горадзе Брацілава, дзе тады знаходзіўся ўжо савецкія ваенныя часці. Пасля лячэння мяне адправілі ў перасыльныя пункты, найперш у Будапешт у Венгрыю, а затым — у Львоў, ужо на тэрыторыі СССР... Пад канец лістапада 1945 года мяне дэмабілізавалі, і я прыехаў у родную вёску Барадзіно..."*

Яго там не спадзяваліся. У Барадзіно ўжо раней паспела вярнуцца з вёскі **Раманаўка**, што пад Сямяцічамі, жонка, **Аляксандра Васільеўна**, з 13-гадовым сынам **Юркам** і 6-гадовай дачушкай **Валяй**. Яна была пераканана, што муж загінуў у дотах над Бугам. Так мне гаварылі жыхары Раманаўкі, якія яе добра яшчэ памятаюць. Дакладней аб гэтым пагутарым аднак іншым разам. Тут хопіць нам ведаць, што Аляксандра Васільеўна лічыла сябе ўдавой. Вярнуўшыся дамоў у Барадзіно, яна вытрабавала пенсію на дзяцей, ёй заплацілі таксама за гады, якія яна працавала на акупіраванай тэрыторыі. І здзіці таксама паспелі ўжо прымірыцца з думкай, што таткі няма, што загінуў ён на вайне...

І вось саступіў ён са сваёй „Галгофы", устаў з мёртвых, адцярпеўшы не за нейкія свае грахі, а за нас усіх разам і за кожнага паасобку, за тых, якім пашчаслівілася не перажываць такіх жа пакут.

*„Вось і пачалося маё другое жыццё,* — канчае свае ўспаміны Іван Мікалаевіч Шыбакоў. — *У родным краі, дзе я нарадзіўся, дзе вырас. Спачатку працаваў я загадчыкам па гаспадарчай частцы Шар'інскага раённага кармавога камбіната, а затым стаў я і дырэктарам гэтага ж камбіната..."*

Пасля былі яшчэ іншыя пасады, канчаткова ж у студзені 1972 года, калі яму споўнілася 60 гадоў, яго адпусцілі на пенсію.

*„Цэлы час пасля вайны,* — сцвярджае Іван Шыбакоў, — *я цярплю ад цяжкай працягла̂й хваробы сэрца. У 1953 годзе перажыў інфаркт міакарда (завал), а ад раны ў галаве і ад кантузіі балюча дакучае мне склероз галаўнога мозгу..."*

Перажытае, значыць, адзываецца. Жадаю тады Івану Мікалаевічу ўсё ж такі добрага здароўя, а з вамі, Сябры Чытачы, сустрэнуся праз тыдзень, каб пагутарыць аб іншых героях баёў на Бугу.

**Віктар Рудчык**

(Працяг са стар. 5)

# ЦАЛАВАЦЬ ЦІ НЕ ЦАЛАВАЦЬ

дзе чысценькую анучку, значыць у яе ўсё памыта і чыста. З такою жаніся, заплюшчыўшы вочы. А вы, даражэнькія дзяўчаткі, калі самі любіце чысціню, тады неахайных ганіце прэч ад сябе. Бо як ты захочаш трымаць дом у парадку, а ён табе наносіць гразі ды смуроду, табе рукі папухнуць ад работы, а парадку і так не будзе.

Які павінен быць хлапец, кандыдат на мужа? Павінна быць на ім, перш за ўсё чыстае адзенне і абутак. Не павінна яму з горла смярдзець гарэлкаю, папяросамі. Часта ў такіх на зубах нямытых астаткі яды. З такім ужо не пацалуешся.

Урэшце прапанова Пастаяннаму чытачу: калі табе выпадзе спаткацца з жанчынаю, пакланіся, скажы „добры дзень“. Тады вочы і розум падыктуюць: цалаваць ці не цалаваць у ручку. Яшчэ заўвага: бывае, што жанчына падасць руку ды ў пальчатачцы. Тады я не цалую.

**Э. Шчасновіч**

## 200 ЭКЗЕМПЛЯРАЎ „НІВЫ“

На IX з'ездзе БГКТ у Беластоку, дзе я як дэлегат выступаў у час дыскусіі, я прыняў там абавязацельства (у гонар з'езду) выпісаць яшчэ дадатковых 11 экземпляраў „Нівы“ (паўгадовых, вядома), так, каб у мяне як пісьманосца выпіска роднай газеты зраўнялася, закруглілася да 200 экземпляраў. Дагэтуль меў я 189 гадавых падпісак. І вось маю гонар пахваліцца, што выканаў абавязацельства. У мяне цяпер 200 падпісчыкаў „Нівы“!

**М. Панфілюк**



**З альбома натураліста.** Мікалай Панфілюк — перадавы карэспандэнт і пісьманосец. Мал. Б. Ф. Рудкоўскіна.

## РЭЗЕРВЫ

Да мяне, як карэспандэнта „Нівы“, звярталіся жанчыны з Трасцянкі і Белак, каб памагчы ім арганізаваць у вёсцы халупнічую працу, такую, як шыццё дзіцячых лялек, рабочых рукавіц, склейванне з пластмасы малых люстэрак, выконванне шчотак для валос, народная вышыўка і ткацтва. Мужчыны казалі, што маглі б рабіць драўляныя скрынкі для ўпакоўкі тавару.

Здаецца мне, што гэта вельмі важная справа. Вядома, што на дзяржаўных прадпрыемствах малавата рук да працы і асабліва кульгае ў нас прадукцыя розных дробных вырабаў. Рук да працы на вёсцы часта бывае пад дастаткам. Тут, для прыкладу, возьмем гміну Нараў, якая з'яўляецца тыповай сельскагаспадарчай гмінай. Жанчыны маглі б многа чаго добрага вырабляць, але цяжка ім знайсці такую працу на месцы. Каб была халупнічная праца, яны б не трацілі часу на даезды і лепш даглядалі б гаспадарку.

Стаўлю гэтую праблему для шырэйшай дыскусіі і думаю, што варта ёю заняцца.

**М. Лук'янюк**



## НАЙСТАРЭЙШЫ БУДЫНАК У БЕЛАВЕЖЫ

Гэты маляўніча распалажаны будынак у Палацовым парку ў Белавежы з'яўляецца найстарэйшым будынкам у мястэчку. Быў пастаўлены ў 1848 г. для намесніка Гродзенскай губерні ў Белавежскай пушчы. Потым змяшчаўся тут музей памятак аб пабыўцы ў пушчы рускіх цароў і іх гасцей. У міжваенны перыяд было тут казіно вайсковай падрыхтоўкі леснікоў, а пасля вайны — рэстаран „Турыстычны“.

Зімой гэтага года ліквідавалі рэстаран і будынак часова прызначылі мясцоваму дзетсаду, які згарэў пару месяцаў назад. Калі адбудуецца дзетсад, у будынку правядзецца рамонт і наладзіцца ў ім дыдактычна-падрыхтоўчы цэнтр, які вельмі ў Белавежы патрэбны.

Тэкст і фота **П. Байко**




## НАВУКА ДЛЯ НАС — МУЖЧЫН

Папасмяяўся я шчыра, і не адзін я, калі прачытаў у рубрыцы „З маёй званіцы“ Васіля Петручука „Толькі грыва відаць“. Наконт культуры, як піша аўтар, сапраўды вёска зраўнялася з горадам. І на вёсцы людзі любяць больш атракцыёнаў, і народ весялейшы стаў, і такое цікавае здарэнне — не схаваеш у мяшок. Так было і з гэтым знаёмым Петручука. Вось, мужчыны, гэта для нас навучка: ніколі па-п'янаму не заводзь знаёмства з незнаёмымі, а яшчэ лепш — не сядай з такімі за стол. Бо здарыцца тое самае, што і са знаёмым Петручука. Бедная жонка хацела выручыць мужыка, адабраць грошы і вось што пачула! Гэты фельетон дае нам добрую думку, але варта яе прадумаць па-цвярозаму.

**М. Панфілюк**

## ЖЫЦЦЁ І ЦЯЖКАЕ, І ЦІКАВАЕ

Шаноўны рэдактар „Нівы“! Дзякую вам, што надрукавалі „Дарогу праз жыццё“, пра маё жыццё. Некаторыя жанчыны пыталі, ці сапраўды ў мяне было такое жыццё, бо гавораць — чытала аж некалькі разоў, так спадабаўся гэты расказ.

Не думаў мой прадзед, ні дзед і бацька, што іх дзеці і ўнукі будуць роўны панам, роўны роўным. Я таксама марыць толькі мог, што мае дзеці закончаць універсітэты і зведаюць Еўропу. А вось жа выйшла! Дачка была на студэнцкім абмене ў Маскве, у Крыму, у Сочы, у Таліне, Берліне, Ленінградзе, наведала балканскія краіны. Экзамен здала з выдатным вынікам, яна магістр псіха-педагогікі. Мой дзед, можа, і марыў, а хутчэй — не, што яго сын так пабудуецца, будзе мець сваю легкавую машыну (бо ёсць у нас „Варшава“ — сын мае). Толькі адно мне баліць, што маладыя староняцца ад зямлі-карміліцы, не чуюць яны таго паху зямлі, як яна пахне, напрыклад, для мяне. Хаця мне і забаронена працаваць па здароўю, усё ж я яшчэ ўсё даглядаю, бо люблю працаваць. А можа маладыя маюць рацыю? Менш і лягчэй працуюць і больш зарабляюць ды вольныя суботы маюць? А тут чалавек увесь час не мае волі. Я цешуся, што мае ўнукі не будуць мець такога жыцця, як я, бо і цукерак абы-якіх не хочуць. А як ім расказваю, то слухаюць ды пытаюць, а як то і то, дзедку, было, а як на вайне, ці дзядок страляў, ці немца забіў? Не ведаю я, дзе лепш, але ўвесь час думаю аб гэтым.

**Віктар Мартынюк,**
Хітра

## СКЛАД ДОШАЧАК

У Бельску на вуліцы Рэяновай змяшчаецца гандлёвы драўляны склад і кантора. Кіраўніком тут з'яўляецца Вера Бзоўская. А разам на складзе працуе 25 асоб. Прамысловая група працуе на дзве змены і рэжа на машынах дошачкі для „Вітаміны“, з якіх збіваюцца скрынкі для перавозу гародніны і фруктаў у крамы. Штодзень людзі прыязджаюць фурманкамі і самаходамі, каб купіць дошачкі, бо яны прыдатныя ў кожнай гаспадарцы.

**Румі**




**Іван Казлоўскі.** „Я ўжо не ўяўляю сабе тыдня без „Нівы“, так моцна пасябраваў з ёю. Вельмі рады, што ёсць такія людзі, як вашы журналісты Міхасі (Хмялеўскі і Шаховіч — рэд.), якія шчырым і адкрытым сэрцам хочуць дапамагчы і наладзіць сяброўства з некаторымі маімі знаёмымі. З А. Маўчуном у мяне ідзе творчая перапіска. Сапраўды гэта вельмі цікавы і таленавіты чалавек. З ім вельмі цікава гаворыцца, бо ведае ён шмат аб Беларусі, хаця жыве далёка ад яе, аж у Познані. Прыслаў доўгі ліст, а такі змястоўны і цікавы, што чытаў я яго з асалодай і радаваўся за такога чалавека. Выслаў яму дзве кнігі. Вам таксама дзве. Зараз выйдуць падручнікі, вышлю вам, бо, як бачу, вам вельмі прыдатныя. Ваша задума абмену кнігамі знойдзе шмат прыхільнікаў. Ад мяне ў кожным выпадку чакайце“.

**Ул. Сакалоўскі.** „Я і мае рыжскія сябры з вялікай зацікаўленасцю сочым за публікацыямі „Нівы“, якія даюць нам уяўленне пра жыццё беларусаў у Польшчы, пра дзейнасць БГКТ. Матэрыялы газеты абуджаюць у нас, адарваных жыццёвымі абставінамі ад дому, любоў да родных мясцін. Для мяне асабіста яны напамінаюць асяроддзе, у якім я некалі жыў, дзе прайшло маё дзяцінства, мову, якой гаварылі мае бацькі. Вось гэтая мова і кранае мяне больш за ўсё, бо здаецца такой звычайнай, шчырай і простай, як душа самога народа. І хочацца параўнаць яе з ветлівым лясным ручайком, які гаварліва плюскоча сярод муравы; ручайком, ад якога нясецца духмяны водыр летняга бору, перапоўненага шчабятаннем птушак, перазвонам празрыстых даляў і ў якім тысячамі вясёлак пераліваецца ярка-залацістае сонца і ласкава блішчыць блакітнае, як васількі, неба. Я з задавальненнем згодны высылаць вам кнігі, толькі добра было б ведаць, што вас больш за ўсё цікавіць.

**Ад рэд.** Усё. Але найбольш нам патрэбны кнігі тыпу дапаможнікаў — хрэстаматыі, слоўнікі, падручнікі, біяграфічныя і энцыклапедычныя даведнікі, рознага роду гісторыі, розныя тэматычныя зборнікі і гэтак далей. Высланыя вамі кнігі мы атрымалі. Дзякуем. Яны прыгадзіліся ў рэдакцыі.

## ЗАГАСПАДАРЫЛІ

Членскія камітэты ў крамах ВСС у Гайнаўцы не раз выконвалі розныя грамадскія пачыны, але такога, які быў пры краме № 8 на вуліцы Ліповай, яшчэ не было. Крама гэтая была пабудавана некалькі год таму назад. А плошча вакол крамы не была загаспадарана. Камітэт некалькі разоў прасіў праўленне ВСС, каб загаспадарылі плошчу, але брыгада ВСС была занята чым іншым, і плошчу адкладалі.

Аднойчы членскі камітэт крамы нумар 8 папрасіў на сваё пасяджэнне старшыню пасялковага камітэта № 4 Э. Вайсковіча і звярнуўся з просьбай дапамагчы ўпарадкаваць спомненую плошчу. Рашылі супольнымі сіламі гэта зрабіць. Найцяжэй было атрымаць матэрыял на агароджу, але атрымалі ўрэшце. На машыне апрацаваў гэту агароджу ў сваім сталярскім варштаце Леў Сыльванюк, не беручы за работу ані граша. Мантажнай працай кіраваў член камітэта Уладзімір Пячынскі, якому памагалі іншыя. Навезлі чорнай зямлі, пасядзілі кветкі. Абгарадзілі, плот памалявалі. Усё выглядае цяпер прыгожа, усе задаволены.

**Вірскі**

## ЖЫХАРЫ ПРОСЯЦЬ ХУТЧЭЙ!

У апошні час у Крывяцічах, гміна Орля, будуецца новая энергетычная лінія. Старая на драўляных стаўбах ліквідавана. Пакуль што сяло Крывяцічы застаецца без электрычнай энергіі. А якая ж гэта бяда жыхарам — не трэба нікому тлумачыць. Работы з пабудовай новай лініі ідуць памалу, можна сказаць „чарапашым маршам“. Сяляне Крывяціч маюць вялікую просьбу да энергетычнага раёна ў Бельску, каб па меры магчымасці хутчэй закончыў пабудову новай электралініі. У полі ж цяпер ідзе цяжкая барацьба за ўраджай, і недахоп электраэнергіі людзі балюча адчуваюць.

**Іван Кірызюк**

## МАЙСТАР НА ЎСЕ РУКІ

Мікалай Бахмат з вёскі Рутка, Дубіцкай гміны, мае залатыя рукі. Ён умее ўсё зрабіць: сталярку, боты, хамут, нават цырульнікам у вёсцы з'яўляецца. Мікалай дасканалы цырульнік! А гэтаму майстэрству ён навучыўся ў войску, дзе служыў яшчэ ў даваенны перыяд. Да яго ўсе мужчыны з вёскі ідуць стрыгчыся, і ён нікому не адмовіць.

Аднак найбольш Мікалай любіць рабіць хамуты. У гэтым ён сапраўдны майстар. За работу не бярэ дорага. Мікалай Бахмат жыве адзін (жонка даўно памерла), за вёскай, на калоніі, і летам у яго, як на дачы. Вельмі рады, калі нехта яго наведае, бо чалавек ён добрага сэрца і пастаянны чытач „Нівы“.

**М. Панфілюк**

## НЯСЛАЎНАЯ ХРОНІКА

Назбіралася за апошні час багатае жніво смерці на нашых дарогах.

У Беластоку на вул. 27 Ліпеня на скрыжаванні з Васількоўскай на вызначаным пераходзе для пешаходаў „Стар“ раз'ехаў чалавека, які памёр у бальніцы.

А ў гміне Васількаў каля Беластока жанчыну, якая ехала на веласіпедзе, падбіў самаход. Яна ўпала на сярэдзіну дарогі проста пад едучы насупраць „Фіят-125п“. Памерла, перавезеная ў бальніцу.

У гміне Юхновец матацыкліст на „ВСК“ ехаў захутка і ўдарыў у бетонны стоўб. Моцна ранены — зламаў падставу чэрапа і мае адкрытую рану ў галаве.

А на дарозе з Бельска ў Кляшчэлі „Стар“ наехаў на дзве дзяўчынкі з Бельска — 5 і 7 гадоў. Яны нечакана выбеглі на дарогу з-за трактара. Абедзве дзяўчынкі, цяжка параненыя, перавезены ў бальніцу ў Беластоку.

А ў вёсцы Зверкі, гміна Заблудаў, „Стар“ наехаў на трохгадовага хлопчыка, які раптоўна ўбег на дарогу, проста пад едучы самаход. Хлопчык памёр па дарозе ў бальніцу.

Як відаць з вышэй прыведзенага, трэба значна больш прысвячаць увагі малым дзецям. Яны не павінны гуляць нават паблізу вялікіх рухлівых дарог.

# ГВАЛТ

Раніцой, калі я ішоў на работу, я сустрэў свайго суседа і проста не пазнаў яго: галава забінтавана, пад вокам сіняк, рукі ў царапінах.

— Што гэта з вамі? — спытаў я яго.

— Ды нічога асаблівага. Ноччу на мяне напалі ў парку нейкія тры тыпы...

— Чаго ж яны на вас напалі?

— Я іх, праўду кажучы, не пытаў. Я вяртаўся дадому паркам...

— Выбачайце, а якім паркам?

— Як якім? Тым, што ля нашага дома.

— А, вядома! Значыць, гэта па вашай ласцы я не мог заснуць да раніцы?

— Як гэта?

— Ды гэтак! Мае акно якраз выходзіць у парк. І каля двух гадзін ночы я раптам прачнуўся ад нялюдскага крыку...

— Гэта я крычаў.

— Вось менавіта. Вы крычалі, а я не мог з-за вас заснуць да раніцы!

— Мне жаль, ды іх было трое...

— Дарагі мой, гэта не апраўданне. Ды хоць бы іх і дзесяць было! Галоўнае — гэта тое, што з-за вашага крыку людзі не маглі спаць. А раніцой, між іншым, трэба ісці на работу.

— Дык яны маглі мяне забіць!

— Маглі! Не забілі ж! Вы таксама маглі мяне не разбудзіць, а разбудзілі!

— Я крычаў гвалт, клікаў на дапамогу...

— Можаце крычаць гвалт дзе вам уздумаецца, але не ў публічным месцы. Ды яшчэ глыбокай ноччу. Пасля адзінаццаці вечара ўсе павінны захоўваць цішыню. Эх, свядомасць...

— Вы разумееце, я ж, уласна гаворачы, дзеля таго і крычаў, каб людзі прачнуліся і прыйшлі мне на дапамогу...

— Вось менавіта! Спяць людзі, не спяць — вам усё абыякава. Нездарма гавораць, што абыякавасць — хвароба нашага веку.

— Так, але...

— Дарагі мой, зразумейце ж урэшце, што людзі павінны па начах спаць, а не крычаць дзе папала! Гэта ж эгаізм! Яму, бачыце, хочацца крычаць гвалт ноччу! А тое, што гэта перашкаджае іншым, — аб гэтым падумаць ужо няма часу!

Раптам мой сусед нейк дзіўна паглядзеў на мяне і ціха сказаў:

— Гвалт!

Ён пайшоў, а я яшчэ некалькі секунд стаяў і думаў, што ён гэтым хацеў сказаць.

**Марыя Чубашак**



*Без слоў.*

# НІЎКА



### НЕ РАЗАБРАЛА

Маці корпаецца на панадворку, а сын у хаце працуе. Маці і крычыць у адчыненае акно:

— Ану пакінь дзверы, рыпаеш імі, як маленькі... Табе няма чаго рабіць?... Можа б, музыкай заняўся...

— Ды я не рыпаю, мама, гэта я вучуся на скрыпцы іграць, — крычыць сынок праз акно.

### ЦІ БЫЎ РОЗУМ

Ідзе п'яны дарогай, лаецца, да прахожых чапляецца.

— Што гэта з дзядзькам? — пытае ўнук у бабулі.

— Людзі кажуць: хто выпівае — той розум прапівае, — адказала бабуля ўнуку.

— А раней быў у яго розум? — дапытваецца ўнук.

— Можа, быў, а можа, і не было, калі п'янстваваць стаў, — сказала бабуля.

### НЕ БЫЛО МЕСЦА

Маладая гаспадыня падае мужу на абед курыцу. Муж укусіў раз, падазрона абнюхаў страву і спытаў:

— Што гэта ты там напхала ў сярэдзіну?

— Нічога!.. Я хацела напхаць, але там не было месца.



*Алімпійская ліхаманка.*

Выхадныя дні яны заўсёды праводзяць з начоўкамі. Ён — з сябрамі, на ўлонні прыроды, у дружбе з сонцам і вадою, яна — дома, таксама з вадою, з мылам...

### НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

Мадрыд. Вядомы тарэадор, які пацярпеў у часе апошняй карыды, увесь у бінтах выходзіць з бальніцы.

— Я адпомшчу! — кідае ён шматлікім прыхільнікам, якія сабраліся каля бальніцы. Тарэра ўваходзіць у таверну, натоўп ідзе за ім на паважнай аглегласці. Ён сядае за стол, уладным жэстам падклікае кельнера і ўсклікае:

— Час расплаты надышоў! Смажаную ялавічыну!

*

— Ганс, чаму ты прадаў свой трамбон?

— Разумееш, я выпадкова даведаўся, што сусед купіў ружжо...

*

— Чаму вы падрабілі чужы подпіс?

— Таму, што я даражу сваім добрым імем і не хачу кампраметаваць яго.

## ЗОСЯ

„О, каб русыя мне косы —
Вось чаго мне нестае! —
І не гэткі нос курносы —
Хлопцы ўсе былі б мае!" —
Зося ў люстра пазірала
І, цярэбячы брыво,
Перад люстрам наракала
На такое хараство.

Люстра толькі зіхацела,
Ды маўчала кожны раз,
Але зараз не сцярпела
І прамовіла ў адказ:
„Я штовечар гэта чую.
Дзе ж ты возьмеш, як няма?
Не паправіш долю злую —
Знаеш гэта і сама.
Ты разумная затое,
Гаспадыня — хочаш знаць,
Маеш сэрца залатое,
І не трэба сумаваць..." —
„Знаю, — Зося адказала, —
У мяне надзея ёсць.
Толькі ўвагі вельмі мала
На мяне звяртаюць штось".

Зося ў полі працавала,
Лён палола, буракі,
Вольным часам вышывала
Абрусы і ручнікі.
Быў звычайны вечар летні,
Бубен вальсы адбіваў,
Хлопец рослы і прыветны
З ёй адною танцаваў.

Ці то быў яе каханы,
Самы любы, дарагі,
Ці, магчыма, нечаканы,
Непрадбачаны другі,
Але ўжо амаль раздзела,
Як вярнулася яна
І ў люстэрка паглядзела,
Падышоўшы да акна:
„Не, чаго... Я — маладая
І не брыдкая зусім...
Ён сказаў мне „дарагая".
Як было прыемна з ім!"
Люстра, бліснуўшы спрасоння,
Адказала ціха ёй:
„Што, прыгожая ты сёння?
І заўсёды будзь такой!"

**Язген Верабей**

### ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

Па просьбе чытачкі з Гайнаўкі змяшчаем песню

## ЧЕРЕМШИНА

Йшла вона в садок повз осокори,
Посміхнулась, задивилась в гори,
Де з беріз спадають вранці роси, —
Цвіт калини приколола в коси.

Приспів.

Небо, гори, скільки зір сягає,
З полонини ій вівчар співає:
„Я прийду до тебе, як отару
З водопою зажену в кошару".

Приспів.

Ось і вічір, вівці біля броду
З Черемоша п'ють холодну воду.
У садочку вівчара встречае
Дівчинонька, що его кохае.

Приспів.

Всюду буйно квітне черемшина,
Мов до шлюбу вбралася калина.
Вівчара в садочку, в тихому куточку
Жде дівчина, жде.



*Абагнаць самога сябе!*

## ГУМАР З БАРАДОЮ

### ЗАПРАТАКОЛІЛІ

Старшына з пісарам, забраўшы за падаткі падсвінка ў адной кабеціны, якая была другі раз замужам, так запісалі ў пратаколе: забралі ў Марысі С. за падаткі падсвінка з першага замужаства.

### З „Весніка Задрыпоніі" ПАВЫШАЦЬ МАЙСТЭРСТВА

Дзейсная методыка павышэння ўзроўню культывуецца ў дружыне „Буран". Каб лепш „бачыць поле", усе футбалісты падалі дакументы ў завочны сельскагаспадарчы тэхнікум на факультэт палаводства.

### ЦІ ВЕДАЕЦЕ, ШТО...

...на Бермудскіх выспах характарыстыка з месца працы выдаецца за подпісам бермудскага трохвугольніка?



# КУРЁЗЫ

### БІЗНЕС... НЕ ПАХНЕ

Бізнес, як вядома, робяць на чым хочаш. Нават на тым, на чым, здавалася б, наогул не можа быць аніякага бізнесу.

Пані Вальтраўд Больц, якая жыве ў Баварыі (ФРГ), даўно займаецца калекцыяніраваннем былых рэчаў, якія па свайму прызначэнню выйшлі з карыстання. У тым ліку і... начных гаршкоў. Такім чынам, за многія гады ў яе кватэры створана была даволі арыгінальная „мастацкая" галерэя. А нядаўна гэтай паважнай жанчыне прыйшла ў галаву шчаслівая думка зрабіць свой незвычайны бізнес. Яна аб'явіла аўкцыён на продаж тых начных гаршкоў.

Аматары з'ехаліся з усіх краін Еўропы. Найлепшыя знаўцы далі высокую ацэнку выстаўцы, бо засведчылі, што большасць належыць да XIX стагоддзя, а некаторыя экземпляры былі зроблены яшчэ ў XVIII стагоддзі. Самым цікавым сярод усіх быў аўтарытэтна прызнаны гаршчок з умацаванай у яго візітнай карткай былога гаспадара. Цана за другі цуд-гаршчок — фарфоравы, кітайскага паходжання, размаляваны шматлікімі раслінамі, — падскочыла амаль да 1000 долараў. Высокі попыт быў і на невялікую дзіцячую пасудзіну вытворчасці XIX стагоддзя, на якую невядомы мастак знайшоў неабходным нанесці малюнак з ліліямі і матылькамі.

### НАГУЛЯЎСЯ ЎДОСТАЛЬ

Дзевяць гадзін і дванццаць пяць мінут спатрэбілася шведу М. Палмквісту, каб нагуляцца мячом. За гэты час ён 71.003 разы ўдарыў па ім нагамі і галавой, перавысіўшы „рэкорд" іншага свайго суайчынніка — 68.315 удараў.




**Не муці ваду, бо вада ўсё роўна адстоіцца, а ты дарэмна патраціш час.**